# МЫ НЕ СТВАРАЕМ НОВУЮ ДЗЯРЖАВУ, А ФАРМІРУЕМ САЮЗ ДЗВЮХ ДЗЯРЖАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Некалькі слоў аб супрацоўніцтве ў сферы забеспячэння нацыянальнай і міжнароднай бяспекі. Хачу цвёрда і адназначна заявіць: Беларусь і ў далейшым будзе надзейным саюзнікам Расіі. Зусім гэтак жа мы зыходзім з таго, што Расія з'яўляецца нашым саюзнікам, якому мы можам надзейна давяраць. Партнёрства ў гэтай сферы ўключае ў сябе сумесную барацьбу са злачыннасцю, тэрарызмам, ахову граніц і забеспячэнне абараназдольнасці. Таму ў дагавор уключаны артыкулы, якія прадугледжваюць узаемадзеянне па гэтых напрамках.

Наша стратэгічнае партнёрства з Расіяй мае важную асаблівасць: Беларусь выконвае саюзніцкую місію ў адносінах да Расіі, забяспечваючы абарону сваіх граніц. Расіяне могуць быць упэўнены, што праз тэрыторыю Беларусі ім не будзе пагражаць небяспека. У той жа час гэта азначае, што нашы салдаты не будуць адпраўлены ні ў Таджыкістан, ні ў якую іншую «гарачую кропку».

Дагавор, асноўныя палажэнні якога я цяпер пракаменціраваў, намечана падпісаць 2 красавіка 1996 года. У юрыдычнай форме ён замацуе найвышэйшы сёння ўзровень інтэграцыі дзвюх краін СНД — Беларусі і Расіі.

Як вы ведаеце, членамі Садружнасці з'яўляюцца 12 дзяржаў, частка якіх хацела б супрацоўнічаць паміж сабой па больш высокіх, чым у СНД, стандартах. Такіх дзяржаў сёння чатыры: Беларусь, Казахстан, Кіргізія і Расія. Для падпісання падрыхтаваны праект адпаведнага дагавора. Ён грунтуецца на тых жа падыходах, што і беларуска-расійскі дагавор, але прадугледжвае больш нізкі ўзровень узаемадзеяння.

Такім чынам, мы ў СНД назіраем з'яву, аналагічную «Еўропе розных скорасцей». Сутнасць яго ў тым, што розныя дзяржавы праяўляюць розную гатоўнасць да інтэграцыі.

Такім чынам, пасля 2 красавіка 1996 года мы будзем мець тры ўзроўні інтэграцыі сярод членаў СНД: першы, агульны для ўсіх членаў Садружнасці; другі, больш прасунуты паміж Беларуссю, Казахстанам, Кіргізіяй, Расіяй; трэці, найбольш высокі ўзровень паміж Беларуссю і Расіяй.

Поспехі нашай усходняй палітыкі, блізкая перспектыва выхаду беларуска-расійскіх адносінаў на якасна новы ўзровень узбударажылі нацыянал-радыкалаў і іншых палітычных спекулянтаў.

Іх не цікавяць лёсы людзей. Галоўнае — падмануць як мага больш людзей, раскалоць грамадства і на гэтай хвалі паспрабаваць аднавіць страчаныя пазіцыі.

Для гэтага яны пайшлі на арганізацыю 24 сакавіка ў Мінску беспарадкаў. Натоўп нецвярозых малойчыкаў спрабаваў штурмам узяць тэлецэнтр, нападаў на міліцыянераў. Разлік арганізатараў быў просты — справакаваць канфлікт, выклікаць ахвяры і на гэтым атрымаць палітычныя дывідэнды.

Але тыя часы, калі кучка крыклівых нацыянал-экстрэмістаў магла запалохаць людзей і паралізаваць уладу, прайшлі. Праваахоўныя органы дзейнічалі ў рамках закона, не паддаліся на правакацыю, і нацыяналісты не дасягнулі таго, на што разлічвалі. Тыя, хто арганізоўваў штурм тэлецэнтра, збіваў міліцыянераў і ўчыняў іншыя правапарушэнні, будуць пакараны. Цяпер праводзіцца разбор, і суд вызначыць меру адказнасці кожнага з іх.

Зразумела, нацыяналісты і падтрымліваючыя іх сродкі масавай інфармацыі будуць крычаць аб праследаванні за перакананні і палітычную дзейнасць.

На самай жа справе размова ідзе аб адказнасці за хуліганства, іншыя правапарушэнні і падбухторванне да іх учынення. За гэта ў любой прававой дзяржаве вінаватыя нясуць адказнасць. Так будзе і ў нас.

Але акрамя адказнасці юрыдычнай ёсць яшчэ і адказнасць маральная, палітычная. У зале сядзяць дэпутаты, якія ва ўсім гэтым прымалі ўдзел, сваімі прамовамі ўводзілі ў зман моладзь, настройвалі яе супраць улады, Прэзідэнта. Думаю, што Вярхоўны Савет дасць адпаведную ацэнку іх дзеянням.

Паважаныя дэпутаты!

Сёння беларуска-расійскія адносіны аказаліся ў цэнтры ўвагі ўсёй сусветнай супольнасці. Нашых замежных партнёраў (а Беларусь мае дыпламатычныя адносіны больш чым са ста дзяржавамі свету) цікавіць, якой будзе знешняя палітыка рэспублікі пасля падпісання гэтых дагавораў.

У сувязі з гэтым я хацеў бы падкрэсліць, што наша знешняя палітыка застанецца самастойнай, прагматычнай і мнагавектарнай.

На жаль, нават сярод адукаванай часткі насельніцтва працягвае бытаваць прымітыўны погляд: або з Расіяй супраць Захаду, або з Захадам супраць Расіі.

Я ж за тое, каб быць разам з Расіяй і адначасова развіваць дынамічнае супрацоўніцтва з усімі іншымі дзяржавамі.

Беларусь захоўвае прыхільнасць сваім міжнародным абавязацельствам у галіне раззбраення, вернасць бяз'ядзернаму статусу. Нашы суседзі і іншыя дзяржавы і ў далейшым будуць мець у асобе Рэспублікі Беларусь надзейнага партнёра, які шчыра імкнецца да мірнага супрацоўніцтва.

Беларуска-расійская інтэграцыя ніяк не адбіваецца на дынамізме нашай знешнепалітычнай дзейнасці на іншых напрамках.

Пазаўчора прэм'ер-міністр Рэспублікі М. Чыгір падпісаў маючае прынцыпова важнае значэнне Часовае пагадненне аб гандлі і пытаннях, звязаных з гандлем, паміж Рэспублікай Беларусь і Еўрапейскімі супольніцтвамі. Ёсць дагаворанасці аб маім наведванні ў красавіку Аўстрыі і Германіі, а ў ліпені — Францыі і Турцыі.

Мы будзем актыўна прыцягваць у Беларусь замежны капітал і ствараць для гэтага спрыяльны інвестыцыйны клімат. Я лічу, што мы павінны вырашаць гэтыя пытанні хутка і эфектыўна.

Яшчэ раз хачу падкрэсліць: саюз з Расіяй не азначае для нас ізаляцыю ад астатняга свету. Наадварот, разам з Расіяй мы хутчэй станем паўнапраўнымі членамі еўрапейскай сям'і народаў, сусветнага супольніцтва.

Паважаныя дэпутаты!

Вы ведаеце, што інтэграцыйныя працэсы з'яўляюцца дамінуючымі ў сучасным міжнародным жыцці. Па гэтаму шляху ідуць усе народы, і мы не павінны плесціся ў хвасце сусветных працэсаў.

Да развіцця беларуска-расійскага супрацоўніцтва падключана шырокае кола спецыялістаў і экспертаў. Прынцыповыя пытанні абмяркоўваліся і з урадам, і з Прэзідыумам Вярхоўнага Савета.

Лічу прынцыпова важным, каб увесь працэс падрыхтоўкі і прыняцця рашэнняў у гэтай сферы быў абсалютна адкрытым, галосным.

Шчырасць і адкрытасць — гэта тыя прынцыпы, якіх я прытрымліваюся заўсёды. Тым больш я буду кіравацца імі ў такой святой справе, як беларуска-расійскае яднанне.

Я запрашаю ўсіх дэпутатаў да адкрытага, канструктыўнага дыялогу.

# Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь № 120

## Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў ва Указы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 1995 г. № 116, ад 16 жніўня 1995 г. № 300 і ад 2 лютага 1996 г. № 45

У мэтах упарадкавання спагнання акцызаў пры ўвозе падакцызных тавараў, што падлягаюць маркіроўцы, прадухілення нелегальнага ўвозу і рэалізацыі іх на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю:**

1. Унесці наступныя змяненні і дапаўненні:

1.1. Ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 1995 г. № 116 «Аб увядзенні маркіроўкі ўвозімых у Рэспубліку Беларусь алкагольных і тытунёвых вырабаў» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 9, арт. 190; № 36, арт.865/:

1.1.1. Пункт 1 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«1. Устанавіць, што алкагольныя і тытунёвыя вырабы, увозімыя ў Рэспубліку Беларусь, падлягаюць маркіроўцы акцызнай маркай, якая пацвярджае легальнасць увозу тавару і выплату па ім акцызаў і іншых плацяжоў, спаганяемых пры мытным афармленні, калі іншае не прадугледжана законамі, міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь, а таксама ўказамі і распараджэннямі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Увоз на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь і мытнае афармленне тавараў, што падлягаюць маркіроўцы, дапускаецца толькі пры наяўнасці на гэтых таварах нанесеных акцызных марак, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных заканадаўствам і міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь.

Кошт акцызнай маркі ўстанаўліваецца Міністэрствам фінансаў, але не можа перавышаць памеру акцызаў, вылічаных у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, павялічанага на сабекошт марак у выпадку, калі такія маркі вырабляюцца па заказу імпарцёраў»;

1.1.2. У пункце 2:

з абзаца пятага выключыць словы: «на мытныя склады»;

дапоўніць пункт абзацам і часткамі наступнага зместу:

«увозімыя фізічнымі асобамі ў межах нормаў, устаноўленых заканадаўствам.

Акрамя таго, маркіроўцы не падлягаюць алкагольныя вырабы, расфасаваныя ў тару ёмістасцю 0,01 літра і менш, а таксама 10 літраў і больш (вызваленне ад акцызаў пры гэтым не робіцца).

Акцызы па таварах, указаных у частках першай і другой гэтага пункта, выплачваюцца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь»;

1.1.3. Пункт 3 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«3. Маркіроўка ажыццяўляецца шляхам нанясення на тавар акцызных марак спосабам, які выключае іх паўторнае выкарыстанне.

Адказнымі за захаванне правілаў маркіроўкі тавараў і ўвозу маркіруемых тавараў з'яўляюцца іх уладальнікі (у тым ліку асобы, якія ажыццяўляюць перавозку або захоўванне гэтых тавараў), калі іншае не прадугледжана заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Набытыя маркі не падлягаюць адчужэнню або перадачы ў іншых формах, за выключэннем выпадкаў перадачы іх для нанясення на тавары, а таксама вяртання пашкоджаных або нявыкарыстаных марак у парадку, што ўстанаўліваецца Дзяржаўным мытным камітэтам.

Маркі (за выключэннем марак, вывозімых у дзяржавы—удзельніцы мытнага саюза) вывозяцца з мытнай тэрыторыі Рэспублікі Беларусь без спагнання мытных плацяжоў у мытным рэжыме часовага вывазу (часовага карыстання) пад абавязацельства аб зваротным увозе»;

1.1.4. Пункт 4 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«4. Забараніць рэалізацыю, перавозку і захоўванне алкагольных і тытунёвых вырабаў, якія падлягаюць маркіроўцы, без нанесеных на іх акцызных марак, за выключэннем перавозкі і захоўвання вырабаў, зарэгістраваных у дзяржаўных падатковых інспекцыях па стану на 1 красавіка 1995 г.

Прапанаваныя да рэалізацыі алкагольныя і тытунёвыя вырабы, якія перавозяцца і захоўваюцца з парушэннем гэтага патрабавання, падлягаюць арышту па рашэнню мытных органаў, дзяржаўных падатковых інспекцый, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў, органаў ўнутраных спраў, Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і ператварэнню ў даход Рэспублікі Беларусь па рашэнню дзяржаўных падатковых інспекцый.

Улік, ацэнка і рэалізацыя ператвораных у даход Рэспублікі Беларусь алкагольных і тытунёвых вырабаў праводзяцца ў парадку, устаноўленым заканадаўствам.

За парушэнне выкладзенага ў частцы першай гэтага пункта патрабавання суб'екты гаспадарання (іх службовыя асобы) нясуць таксама іншую адказнасць, прадугледжаную Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 лютага 1996 г. № 45 «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці, рэалізацыі, захоўвання алкагольных і тытунёвых вырабаў»;

1.1.5. У пункце 5:

словы: «плацельшчыкі акцызаў» выключыць;

дапоўніць пункт часткай наступнага зместу:

«Указаныя асобы на працягу двух месяцаў з дня ўступлення ў сілу гэтай часткі пункта абавязаны правесці маркіроўку алкагольных і тытунёвых вырабаў, што зарэгістраваны ў дзяржаўных падатковых інспекцыях па стану на 1 красавіка 1995 г. і падлягаюць маркіроўцы ў адпаведнасці з гэтым Указам, або вывезці іх за межы Рэспублікі Беларусь»;

1.1.6. Пасля пункта 5 дапоўніць Указ пунктам 5 Прым. наступнага зместу:

«5 Прым. Ускласці на:

Міністэрства фінансаў распрацоўку эскізаў, размяшчэнне заказаў на выраб акцызных марак і перадачу іх мытным органам;

мытныя органы рэалізацыю акцызных марак.

Выдача акцызных марак ажыццяўляецца пры ўмове захавання асобай, якая звярнулася за іх атрыманнем, наступных патрабаванняў:

выплаты кошту акцызных марак;

унясення авансавага плацяжу па акцызах у памеры і парадку, устаноўленых у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16 жніўня 1995 г. № 300 «Аб выплаце падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў пры ўвозе тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь»;

прадстаўлення мытным органам гарантый увозу і прад'яўлення да мытнага афармлення тавараў ва ўстаноўленыя тэрміны, а таксама гарантый унясення ўсіх мытных плацяжоў.

Асобы, якія набылі маркі, даюць справаздачу за іх перад мытнымі органамі ў парадку і тэрміны, што ўстанаўліваюцца Дзяржаўным мытным камітэтам па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў і Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыяй пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь.

У выпадку, калі пакупнік марак не зрабіў справаздачу ва ўстаноўленым парадку аб іх выкарыстанні пасля заканчэння тэрміну ўвозу адпаведных тавараў, мытныя органы за кошт прадстаўленых гарантый спаганяюць з асобы, якая прадставіла такія гарантыі, мытныя плацяжы ў памеры, устаноўленым пры ўвозе адпаведных тавараў у рэжыме свабоднага абарачэння.

У выпадку адмовы асобы ад увозу тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь кошт нявыкарыстаных марак вяртаецца іх пакупніку пры ўмове здачы марак органам, якія выдалі гэтыя маркі. Кошт пашкоджаных марак вяртанню не падлягае»;

1.1.7. Пункт 6 Прым. выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«6 Прым. Упаўнаважыць дзяржаўную падатковую інспекцыю ажыццяўляць ператварэнне маёмасці ў даход Рэспублікі Беларусь у выпадках, прадугледжаных заканадаўствам»;

1.2. Ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16 жніўня 1995 г. № 300 «Аб выплаце падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў пры ўвозе тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 24, арт. 562):

1.2.1. Падпункт 6.2 дапоўніць словамі: «акцызныя маркі»;

1.2.2. Пасля пункта 6 дапоўніць Указ пунктам 6 Прым. наступнага зместу:

«6 Прым. Вызваліць ад падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў, спаганяемых у адпаведнасці з гэтым Указам, тавары, увозімыя на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь у якасці ўкладу ў статутны фонд прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі (акрамя алкагольных і тытунёвых вырабаў, піва, тытуню, пірατэхнічных устройстваў і наркатычных сродкаў).

Такія тавары не могуць быць выкарыстаны без дазволу мытных органаў у іншых мэтах, чым тыя, у сувязі з якімі былі прадастаўлены ўказаныя льготы. У выпадку парушэння гэтага патрабавання права на льготы страчваецца, а сумы падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў спаганяюцца мытнымі органамі ў памерах, устаноўленых заканадаўствам»;

1.2.3. Пункт 7 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«7. Устанавіць, што тавары, якія паходзяць і ўвозяцца з тэрыторый дзяржаў — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў, падаткам на дабаўленую вартасць, а таксама акцызамі (акрамя падакцызных тавараў, што падлягаюць маркіроўцы) пры ўвозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь не абкладаюцца, калі іншае не прадугледжана заканадаўствам або міжнароднымі дагаворамі Рэспублікі Беларусь»;

1.2.4. У пункце 9:

частку другую выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Акцызы на тавары, што падлягаюць маркіроўцы, спаганяюцца толькі ў частцы, не пакрытай сумай, выручанай ад продажу выкарыстаных для маркіроўкі тавараў марак»;

дапоўніць пункт часткамі наступнага зместу:

«Асобы, якія ўвозяць на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь тавары, што падлягаюць маркіроўцы акцызнымі маркамі, да атрымання такіх марак уносяць авансавыя плацяжы па акцызах у памеры, што ўстанаўліваецца Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь. Розніца паміж сумамі акцызаў, якія падлягаюць унясенню ў бюджэт у адпаведнасці з гэтым Указам, і фактычна ўнесенымі авансавымі плацяжамі па акцызах падлягае выплаце пры мытным афармленні тавараў.

У выпадку адмовы суб'екта гаспадарання ад увозу тавараў на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь авансавыя плацяжы па акцызах падлягаюць вяртанню ў парадку, што ўстанаўліваецца Дзяржаўным мытным камітэтам па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў, пасля здачы мытным органам нявыкарыстаных акцызных марак. У выпадку пашкоджання або страты акцызных марак такія плацяжы вяртаюцца (за вылікам кошту марак), калі ўстаноўлена, што маркі страчаны або пашкоджаны ў выніку дзеяння неадольнай сілы*

Спрэчкі, звязаныя з вяртаннем авансавых плацяжоў па акцызах, разглядаюцца ў судовым парадку.

Дазволіць Дзяржаўнаму мытнаму камітэту прадастаўляць суб'ектам гаспадарання адтэрміноўку плацяжу падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў, што падлягаюць унясенню ў адпаведнасці з гэтым Указам, тэрмінам да двух месяцаў. Адтэрміноўка даецца пры прадстаўленні гарантый у парадку і на ўмовах, прадугледжаных Дзяржаўным мытным камітэтам»;

дапоўніць пункт спасылкай наступнага зместу:

«* Пад неадольнай сілай у гэтым Указе разумеюцца стыхійныя бедствы, аварыі, эпідэміі, эпізаотыі, якія маюць надзвычайны характар, а таксама ваенныя дзеянні і масавыя беспарадкі»;

1.2.5. Пункт 10 выключыць;

1.2.6. Пункт 13 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«13. Сумы падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў, якія залішне паступілі ў бюджэт у выніку няправільнага іх вылічэння або парушэння ўстаноўленага парадку спагнання, па заяве плацельшчыка падлягаюць вяртанню або залічэнню ў лік іншых належных з плацельшчыка сум, калі не закончыўся гадавы тэрмін з дня іх паступлення.

Пасля рэалізацыі тавараў, абкладаемых падаткам на дабаўленую вартасць пры ўвозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, падатак на дабаўленую вартасць вылічваецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць» і выплачваецца ў частцы, не пакрытай сумай падатку на дабаўленую вартасць, выплачанай пры ўвозе гэтых тавараў.

Пасля рэалізацыі тавараў, на якія акцызы выплачаны пры ўвозе на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, акцызы вылічваюцца зыходзячы з устаноўленых ставак і выручкі ад рэалізацыі тавараў і выплачваюцца ў частцы, не пакрытай сумай акцызаў, выплачаных пры ўвозе тавараў, што ўключае кошт акцызных марак, выкарыстаных для маркіроўкі гэтых тавараў»;

1.3. Ва Указ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 2 лютага 1996 г. № 45 «Аб дзяржаўным рэгуляванні вытворчасці, рэалізацыі, захоўвання алкагольных і тытунёвых вырабаў» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 4, арт.82/:

абзац трэці падпункта 1.4 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«алкагольныя і тытунёвыя вырабы падлягаюць арышту па рашэнню мытных органаў, дзяржаўных падатковых інспекцый, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў, органаў унутраных спраў, Службы кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і ператварэнню ў даход Рэспублікі Беларусь па рашэнню дзяржаўных падатковых інспекцый».

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

правесці перагаворы з дзяржавамі—удзельніцамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў аб увядзенні квот на алкагольныя і тытунёвыя вырабы, якія паходзяць і ўвозяцца з тэрыторый гэтых дзяржаў;

вызначыць парадак і ўмовы прадастаўлення суб'ектам гаспадарання льгот па выплаце падатку на дабаўленую вартасць і акцызаў пры ўвозе тавараў у якасці ўкладу ў статутны фонд прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі;

устанавіць парадак рэалізацыі немаркіраваных алкагольных і тытунёвых вырабаў, ператвораных у даход Рэспублікі Беларусь у адпаведнасці з заканадаўствам;

прывесці рашэнні ўрада і падведамасных яму органаў у адпаведнасць з гэтым Указам.

3. Дзяржаўнаму мытнаму камітэту, Міністэрству фінансаў і Галоўнай дзяржаўнай падатковай інспекцыі пры Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь зацвердзіць апісанні спосабаў маркіроўкі алкагольных і тытунёвых вырабаў акцызнымі маркамі і пералік адзінак тавараў, якія падлягаюць маркіроўцы.

4. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

25 сакавіка 1996 г.
г. Мінск.

**КРЫК ДУШЫ**

# Я НЕ ПРАШУ Ў ДЗЯРЖАВЫ НІЯКАЙ ПАДАЧКІ, А ДАЙЦЕ МНЕ МАГЧЫМАСЦЬ ПРАЦАВАЦЬ...

Паважаная «Звязда»!

Першы раз звяртаюся ў газету, якую вельмі даўно чытаю, люблю і паважаю. А напісаць мяне прымусілі абставіны, з якімі мне прыйшлося сутыкнуцца на дадзеным этапе майго не бязвоблачнага жыцця. Справа ў тым, што я — працуючая пенсіянерка, на пенсію пайшла год назад ва ўзросце 50 гадоў, як ліквідатар наступстваў аварыі на ЧАЭС. Пасля катастрофы там мы пераехалі ў Капыльскі раён, дзе я працую настаўніцай сельскай школы. Раённы аддзел адукацыі вымушае мяне падпісаць кантракт або працоўны дагавор, інакш мне пагражае звальненне з работы. Мне вядома, што Канстытуцыйны суд адмяніў указ Прэзідэнта наконт гэтага, як не адпаведны Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Але пастанова Канстытуцыйнага суда не выконваецца, што відаць на маім горкім прыкладзе.

Я ўсё жыццё вучыла дзяцей і слепа верыла сама, што дзяржава абароніць інтарэсы кожнага з нас. А на самай справе атрымліваецца зусім інакш. Жыццё і так дастаткова наздзекавалася над нашай сям'ёй. Адна толькі эвакуацыя з 30-кіламетровай зоны што значыць. Той, хто яе перажыў, ведае, што гэта за кара была для нас. Кінуць дагледжаны прыгожы дом з усімі прыбудовамі, адцурацца ад усёй гаспадаркі і ехаць з пяццю дзецьмі ў нікуды — ці не гэта той «рай», які атрымлівалі чарнобыльцы за чыюсьці неакуратнасць у рабоце?

Потым, тры гады назад, ва ўзросце 27 гадоў, памёр наш сын, старшы лейтэнант, які верай і праўдай служыў Айчыне ў г. Ліда. А ў вайсковай часці не знайшлося нават сродкаў на помнік свайму салдату, які і памёр на службе, пахварэўшы ўсяго адзін няпоўны месяц. Пакінулі нас сам-насам са сваім самым цяжкім горам. Вытрымалі і гэты страшэнны ўдар лёсу, хоць душа і спусташылася.

Затым цяжка захварэў зяць, яму зрабілі тры анкалагічныя аперацыі. Служыў ён у чарнобыльскай зоне і ўдзельнічаў у ліквідацыі аварыі непасрэдна на тэрыторыі станцыі, дзе 18—20-гадовых воінаў кінулі ў самае пекла. Вельмі многіх з іх ужо няма ў жывых, а хто і застаўся, дык не радуецца: што гэта за жыццё ў 25 гадоў застацца без здароўя?

Самы меншы сын зараз паступіў вучыцца, стаў студэнтам. Жыве на кватэры. Той, у каго дзеці вучацца, ведае, колькі зараз гэта каштуе. Амаль усе сродкі ідуць на тое, каб аплаціць кватэру, купіць яму самае неабходнае з адзення, харчавання. Муж працуе ў саўгасе, заробкі такія, што нават не хапае на рабочую вопратку і абутак. Ды і сам хварэе, трымаецца толькі на леках. Раніцай, пакуль не вып'е таблеткі, не можа зусім хадзіць. Мая работа — гэта, можна сказаць, адзіная крыніца, за кошт якой мы жывём і вучым сына. На адну пенсію і аднаму пражыць зараз немагчыма. Я ж не прашу ў дзяржавы ніякай падачкі, ніколі нічога не прасіла ў яе і ніякімі льготамі не карысталася як ліквідатар. Я толькі аднаго прашу: дайце магчымасць мне самой зарабляць, каб я магла вывучыць свайго сына, а ён вельмі хоча вучыцца.

Нельга ж усіх стрыгчы пад адзін грэбень. Я працую нікольні не горш, чым маладыя, а багаты педагагічны вопыт і веды даюць магчымасць мне даць і больш, чым дадуць мае маладыя калегі, няхай яны на мяне не крыўдзяцца. Я люблю іх усіх, люблю дзяцей, люблю сваю работу. І прашу ў сваёй паважанай «Звязды» толькі абароны і дапамогі.

З павагай

**Ніна ГАЛКО,**
**настаўніца Дзяржынскай школы Капыльскага раёна.**

## АД АДДЗЕЛА ПІСЬМАЎ

Можна зразумець хваляванне і трывогу Ніны Мікалаеўны за лёс сваёй гаротнай сям'і, і перш-наперш за месца работы настаўніцы сельскай школы.

Вось што па тэлефоне паведаміў загадчык раённага аддзела адукацыі **Вячаслаў Вячаслававіч ЯРМАЛІНСКІ:**

— З усімі працуючымі настаўнікамі-пенсіянерамі, згодна з указам Прэзідэнта, зараз мы заключаем кантракты, ці працоўныя дагаворы. Такіх педагогаў у раёне 35 і ўсе яны, акрамя Н. Галко, падпісалі гэтыя пагадненні. Тое ж самае робяць і работнікі культуры, гандлю, быту, іншых галін.

У нашай адукацыйнай сферы гэтыя настаўнікі застаюцца на сваіх ранейшых пасадах да канца навучальнага года. Перад пачаткам жа новага з імі таксама будуць перазаключаны кантракты.

Аб тым, чаму Ніна Мікалаеўна баіцца паставіць свой подпіс, не ведаю, яна да мяне не звярталася. Але хачу сказаць, што ніхто такім чынам не думае ад яе пазбавіцца. Больш таго, запэўніваю, што ні школа, ні райаддзел адукацыі не замахваецца на Н. Галко ні як на педагога, ні на яе рабочае месца. Няхай на здароўе працуе і вучыць дзетак.

Гэта пісьмо і тлумачэнне да яго рэдакцыя вырашыла надрукаваць яшчэ і вось чаму. Апошнім часам у рэдакцыю паступае шмат пісьмаў, аўтары якіх (найбольш настаўнікі-пенсіянеры) устрывожаны тым, што іх прымушаюць падпісаць кантракты, інакш звольняць з работы. На нашу думку, біць у званы асаблівай прычыны няма: гэта новае мерапрыемства ў рэспубліцы праводзіцца ў адпаведнасці з указам Прэзідэнта.

***ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ***

# ПЫТАННЕ АБ ЗАКЛЮЧЭННІ КАНТРАКТА З ПЕНСІЯНЕРАМ ВЫРАШАЕ НАЙМАЛЬНІК

Некалькі разоў змяняўся Указ Прэзідэнта «Аб некаторых пытаннях рэгулявання працоўнай дзейнасці і пенсіённага забеспячэння грамадзян». Некаторыя чытачы проста заблыталіся ў асобных яго палажэннях. Напрыклад, ці правільна робіць тая адміністрацыя прадпрыемства, што прапануе заключыць кантракт з работнікам, які дасягнуў пенсіённага ўзросту, але працягвае працаваць на ранейшым месцы?

Калі пакінуць у баку пытанне аб адпаведнасці гэтага ўказа Закона аб працы, а аналізаваць толькі ўказ, дык заўважым, што цяпер вырашаць, заключаць ці не кантракт з работнікам, які дасягнуў пенсіённага ўзросту і мае права на поўную пенсію, будзе сам наймальнік. Ва ўказе ж так і запісана: «наймальніку прадастаўлена права заключаць кантракты...» А вось з якімі работнікамі іх заключаць: з тымі, хто быў раней прыняты на работу, ці з тымі, хто толькі ўладкоўваецца, дакладна ва ўказе не сказана. Але выснову можна зрабіць зыходзячы з п. 1 ч. 2 гэтага дакумента. А ён прадугледжвае: калі работнік адмовіцца заключыць кантракт, дык працоўны дагавор з ім спыняецца. Пры гэтым у працоўнай кніжцы прычынай звальнення будзе ўказана адмова работніка ад прадаўжэння работы ў сувязі са змяненнем істотных умоў працы. Адсюль вынікае, што ва ўказе размова ідзе менавіта аб тых работніках, якія працуючы дасягнулі пенсіённага ўзросту. З імі і можа быць заключаны кантракт у любы момант.

Але ёсць яшчэ адзін дакумент, які таксама датычыцца гэтага важнага пытання. Гэта Палажэнне аб парадку і ўмовах заключэння кантрактаў з работнікамі, якія маюць права на пенсію. Яно пацверджана пастановай Кабінета Міністраў 8 снежня 1995 г., крыху раней, чым унесены апошнія змены ў прэзідэнцкі ўказ. Так у п. 6 вышэйназванага палажэння ўказана, што «кантракт з'яўляецца падставай для выдання загаду (распараджэння, пастановы) аб назначэнні (прыёме) работніка на пасаду (работу)». Таму не дзіўна, што ў некаторых арганізацыях пенсіянерам, якіх прымаюць на работу, адразу прапануюць заключыць кантракт. Наймальнік у такім выпадку кіруецца менавіта гэтай нормай працоўнага заканадаўства.

**Наталля ДОЎНАР,**
**юрыдычны кансультант «Звязды».**

БЯДА

ЧАРНОБЫЛЬ: 10 ГАДОЎ ТРАГЕДЫІ

# 2. ЗАКАЗЧЫКІ І ВЫКАНАЎЦЫ

**За дзесяць паслячарнобыльскіх гадоў лопнула нямала ілюзій, звязаных з надзеямі на кардынальнае вырашэнне быццам бы агульнанацыянальнай праблемы.**
**Чаму «быццам бы»? А гэта яшчэ адзін міф, які эксплуатаваўся ўсё дзесяцігоддзе і які таксама лопнуў: прыярытэтам нумар адзін у дзяржаўнай палітыцы чарнобыльская праблема так і не стала. «Прыярытэтнай» стала простая, як амёба, думка: наша кволая эканоміка многага даць чарнобыльцам не ў стане. Расшыфроўваць жа гэты эўфемізм трэба так: грамадзяне, пацярпеўшыя ад катастрофы, на асаблівую дапамогу з боку дзяржавы сёння не разлічвайце, ёсць «неабходнасць» сёе-тое з вашых былых законных ільгот нават адабраць.**
**Але як можна ў «чарнобыльскай» краіне ўголас выказаць такую кашчунную думку? Пастаўленых мэтаў, зразумелая справа, прасцей дабівацца спакваля, заручыўшыся «законным» падмацаваннем. Менавіта такім падмацаваннем, на думку прафесара В. Несцярэнкі (дададзім: і многіх іншых вучоных і спецыялістаў), і стала названая ўжо «Канцэпцыя ахоўных мераў у аднаўленчы перыяд...»**
**Сам В. Несцярэнка не тоіць, што з'яўляецца прынцыповым і паслядоўным праціўнікам гэтай канцэпцыі. Ці мае ён права выносіць гэтаму дакументу крытычны прысуд? Паведамім аўдыторыі: Васіль Несцярэнка ў 1990—93 гадах узначальваў незалежны Аб'яднаны экспертны камітэт з 200 вядучых спецыялістаў Беларусі, Украіны і Расіі. Адзначым, што вынікам дзейнасці незалежнага экспертнага камітэта стала выданне экспертнага заключэння ў чатырох тамах-частках: «Чарнобыльская катастрофа: прычыны і вынікі». Ужо толькі адзін гэты факт з працоўнай біяграфіі ўдзельніка нашай сённяшняй размовы гаворыць аб яго высокім навуковым і практычным аўтарытэце.**

**— Для пачатку, Васіль Барысавіч, хацелася б прывесці не вельмі вядомы чытацкай аўдыторыі факт. На першым пашыраным пасяджэнні Камісіі па праблемах чарнобыльскай катастрофы Вярхоўнага Савета была прыведзена лічба: апошнім часам у рэспубліцы ў зону з узроўнем забруджання 1—5 кюры «пераведзена» 2800 вёсак, якія раней лічыліся больш забруджанымі. На якіх падставах гэта зроблена? На аснове якіх навуковых даных і рэкамендацый?**

**Як вы пракаменціравалі б гэты факт?**

— Прычыны аўтары такога «пераводу», канешне, будуць называць самыя розныя, аднак відавочна, што без «дапамогі» гэтай самай «Канцэпцыі ахоўных мераў...» яны не абышліся. Зноў жа, як мы ўжо бачылі, такая камбінацыя дае ўладам магчымасць на «законнай» падставе адмовіць жыхарам гэтых мясцін у сацыяльнай абароне і дапамозе, быццам і не было ранейшага дзесяцігадовага апраменьвання. Зноў знаёмы — грубы і бюракратычны падыход: адкінуўшы гэтых «надакучыўшых» чарнобыльцаў, зменшыць затраты на Дзяржаўную чарнобыльскую праграму. Можна паставіць пытанне і так: няўжо і ў зоне з узроўнем 1—5 кюры ахоўных мерапрыемстваў праводзіць не трэба?

Разбяромся з прыкладам упамянёных ужо Альмян Столінскага раёна, дзе якраз прыкладна такі ж узровень забруджвання. Здавалася б, яго шчыльнасць і невысокая, аднак трывожных фактараў у жыцці мясцовых вяскоўцаў шмат.

Сама вёска размешчана ў лесе, у балоцістых мясцінах. Там яўна склаліся ўмовы, калі людзі атрымліваюць забруджаныя прадукты харчавання. Прыродныя ўмовы ў Альмянах такія, што радыенукліды выдатна захоўваюцца ў глебе, а потым, зразумела, трапляюць у кармы, і, нарэшце, па харчовым ланцужку — у арганізм чалавека. Вось адкуль набіраюць сёння людзі дозу ўнутранага апраменьвання. А аўтары «новай» канцэпцыі заяўляюць аб нейкім «аднаўленчым перыядзе»! Дзе яны яго ўбачылі?

Паводле даных 1990-91 гадоў, малако, якое пілі жыхары Альмян, утрымлівала да 5.000 бекерэляў радыеактыўнасці на літр, што прыкладна ў 50 разоў вышэй за норму. У 1992 годзе ў Каталогу дозаў было адзначана, што сярэдняя ўнутраная дозавая нагрузка, якая прыпадае на аднаго «сярэднестатыстычнага» грамадзяніна на год, роўная тут 3 мілізівертам. Гэта ўжо вельмі дрэнна, бо ў тры разы перавышае дозавую мяжу.

Аднак спецыялісты НДІ радыяцыйнай медыцыны выявілі ў Альмянах і такіх асоб, у якіх дозавая нагрузка за год склала 4-5 і нават 7 мЗв! Такіх было выяўлена 8 чалавек. Вывад зразумелы: жыць гэтым людзям у той зоне — значыць рызыкаваць здароўем і нават жыццём.

Вось вам і пацвярджэнне таго, што нельга, як кажуць, росчыркам пяра выкідваць людзей з груп радыяцыйнай рызыкі, арыентуючыся толькі на сярэднія паказчыкі. Мы ж пры гэтым страчваем не ссечаныя бярвёны, а жывых людзей! Гэта гуманна? Я такога «гуманізму» зразумець не магу.

**— Пасля такой інфармацыі сапраўды задумаешся, адкуль у аўтараў прапануемай канцэпцыі бярэцца аптымізм, калі яны прапагандуюць штучна выдуманы, прывідны «аднаўленчы перыяд» у радыяцыйнай зоне?**

**Усё разам узятае падводзіць да пытання: як жа атрымалася, што ў нас адмовіліся ад існуючай канцэпцыі Акадэміі навук Беларусі? Яна ж якраз і атрымала назву гуманнай, на яе аснове было прынята і цяперашняе заканадаўства (абсечанае выканаўчымі ўладамі сілавымі метадамі) па абароне чарнобыльцаў...**

— Падкрэслю яшчэ раз: «новая» канцэпцыя менавіта і вызначаецца тым, што ламае асноўныя прынцыпы радыяцыйнай, сацыяльнай і ўсякай іншай абароны большай часткі насельніцтва ў забруджанай зоне. Як яна прабіла сабе дарогу?

Тут нельга не ўпамянуць пра пазіцыю Нацыянальнай камісіі па радыяцыйнай абароне, бо без яе адабрэння прапануемая канцэпцыя не магла б набыць афіцыйнага статусу. Камісія — вельмі важны орган, які дае перспектыўныя прагнозы, аргументаваныя заключэнні па шматлікіх праблемах радыяцыйнай бяспекі і г. д. У іншых краінах свету, у тым ліку ў Расіі і на Украіне, такая камісія назначаецца парламентам і падсправаздачная толькі яму. У Беларусі ж дадумаліся падпарадкаваць НКРА менавіта ўраду — і гэта галоўная памылка.

Думаю, што многім зразумелае і рашэнне яшчэ папярэдняга ўрада ў 1993 годзе аб прызначэнні групы прафесара Я. Пятраева, калі ёй быў зроблены, як кажуць, сацыяльны заказ: трэба, маўляў, стварыць такую канцэпцыю, каб чарнобыльская праграма стала больш танная. Ужо відаць, як гэтая задача рэалізавана. А паколькі цяпер куды большыя эканамічныя і фінансавыя цяжкасці, то «новая» канцэпцыя вельмі ўдала кладзецца ў рэчышча сённяшняй «чарнобыльскай» палітыкі.

**— Дзіўна, якая ж гэта ў нас навука, калі яна можа абгрунтаваць і адну канцэпцыю, і другую, якая супярэчыць першай? І кожны даказвае пры гэтым правільнасць сваёй распрацоўкі. Атрымліваецца, што вучоныя могуць абгрунтаваць усё, што захоча ўлада? (Прабачце, Васіль Барысавіч, не ў ваш агарод каменьчык кінуты — інстытут «Белрад» сапраўды недзяржаўная, незалежная арганізацыя.)**

**І якую «навуку» наогул можна вынесці пры разборы сітуацыі, што склалася ў час абмеркавання цяперашняй канцэпцыі?**

— «Навука» гэтая даволі павучальная. Раней у саставе НКРА былі такія вядомыя вучоныя і спецыялісты, як Э. Збароўскі, М. Малько, І. Мацвеенка. Называю менавіта гэтыя прозвішчы таму, што ўпамянёныя члены камісіі пярэчылі супраць многіх палажэнняў распрацоўваемай тады канцэпцыі, і, калі справа дайшла да абмеркавання дакумента, іх з саставу НКРА... вывелі.

У Акадэміі навук адбыліся два абмеркаванні прапаноў групы прафесара Я. Пятраева. На першым з іх (вясной 1994 года) з рэзкай крытыкай палажэнняў прапануемай канцэпцыі выступілі многія, у тым ліку М. Малько і я сам. Тады прэзідэнт АН Беларусі Л. Сушчэня падагульніў: з такім аб'ёмам крытыкі гэтую канцэпцыю прымаць нельга. І прапанаваў стварыць пагаджальную камісію, каб прывесці да адзінай думкі пазіцыю ўсіх пяці груп экспертаў. Дарэчы, адну з груп узначальваў і я.

Такую нараду даручылі правесці ў былым Дзяржкамчарнобылі намесніку старшыні камітэта І. Ралевічу. У дзень чарговага абмеркавання ў 9 гадзін раніцы я з ім якраз і гутарыў у будынку камітэта. Думаеце, мне паведамілі, што праз гадзіну камісія пачне работу па канцэпцыі? Дзе там! Прамаўчалі, а па сутнасці — падманулі. І толькі таму, што ведалі маю крытычную пазіцыю. Натуральна, што абмяркоўвалі-прымалі дакумент толькі прыхільнікі «патрэбных» поглядаў.

Вось якія метады выкарыстоўваюцца іншы раз у навуковым асяроддзі. Ды і ці толькі тут? Сёння ў нас іншадумства не цярпяць ні ў навуцы, ні ў дзяржаўных структурах, ды і ў грамадстве ў цэлым. Такімі час выхаваў многіх з нас...

**— Хацелася б прывесці адзін з аспектаў, які закладваюць у прапануемую канцэпцыю яе стваральнікі. Ён гучыць прыкладна так: «Дапушчальнай сярэднегадавой эквівалентнай дозай для чалавека лічыцца менавіта доза не больш як 1 мілізіверт». Здавалася б, усё правільна — і аб чым яшчэ спрачацца?**

— Тут прафесар Я. Пятраеў і яго калегі гавораць, безумоўна, правільна. Але яны «сціпленька» замоўчваюць вельмі важнае: ва ўсіх краінах радыяцыйны кантроль пачынаецца тады, калі фіксуюцца факты дасягнення ўзроўню дозавай нагрузкі ў памеры 30 працэнтаў ад дапушчальнай мяжы ў 1 мЗв.

Вось навуковыя даныя: у ЗША, Англіі, ФРГ, іншых краінах падлік пачынаецца ад узроўню 0,25—0,30 мЗв у год на чалавека — ужо ўключаецца радыяцыйны кантроль, механізм абароны людзей.

**— Як жа панам капіталістам не берагчы здароўе людзей ад радыяцыі? У іншым выпадку падаткаплацельшчыкі адразу могуць зрабіць запыт: куды ідуць нашы грошы? І тым самым паставіць на месца любога міністра.**

**А ў нас... У якой «таямнічай» краіне мы жывём! Год за годам трэба выбіраць паміж здароўем нацыі і грашыма. Дзе грошы? Як расходуецца чарнобыльская частка бюджэту?**

**У нашым парламенце на гэты конт могуць прывесці нямала прыкладаў. Ды хоць бы такі: Ваўкавыскі завод па вытворчасці дзіцячага харчавання можа забяспечыць сваёй прадукцыяй усю Беларусь. Аднак хтосьці вырашыў будаваць такі ж завод на Гомельшчыне. А мы пытаемся, дзе тыя грошы.**

**Хто можа падлічыць, колькі дзесяткаў мільярдаў чарнобыльскіх рублёў вылецела з-за таго, што сотні кватэр для перасяленцаў з зоны дасталіся не ім, а камбінатарам-прайдзісветам? Каго мы фінансуем з чарнобыльскай касы?**

— Я думаю, што наогул больш маральна і сумленна было б і Прэзідэнту, і ўраду прама сказаць: ведаеце, людцы беларускія, сёння на сацыяльную абарону чарнобыльцаў сродкаў проста няма. Таму мы і вымушаны дзеянне некаторых артыкулаў закона прыпыніць — да лепшых часоў. Многія правільна ўспрынялі б гэту горкую праўду...

І ўсё роўна грошы на дзяржпраграму трэба шукаць. Але ж не ў кішэнях змарнаваных чарнобыльцаў!

Чаму ў нас не думаюць, што ракетнаядзернае паліва трэба не дарыць Расіі, а прадаваць яго — па прыкладу Украіны? Трэба дабівацца стварэння міжнароднага страхавога фонду на выпадак ядзерных інцыдэнтаў — гэта ў інтарэсах Беларусі. Толькі хто будзе гэтым займацца? Наогул, не разумею, як можна прыцярпецца да зусім ужо недзяржаўнай думкі: для абароны свайго народа ад радыяцыі, ці бачыце, няма грошай.

**— Са свайго боку, Васіль Барысавіч, я заўважаю, што ў гэтым плане нам трэба чакаць яшчэ нямала сюрпрызаў. Чарговы з іх ужо рыхтуецца. Мяркуецца, што было б мэтазгодна не зацвярджаць праграму па мінімізацыі і пераадоленню вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС на доўгатэрміновы перыяд (1996—2000 гады), а вырашаць гэтую праблему на аснове гадавых планаў...**

— Сапраўды, калі не будзе Дзяржпраграмы, адобранай Вярхоўным Саветам, то за што тады можна і спытаць?

**— Не дай Бог, наш парламент пагодзіцца з гэтай прапановай. Застанемся тады без Дзяржпраграмы — без руля і ветразяў. Затое — са зручнай для адказных кіраўнікоў канцэпцыяй пражывання на забруджаных тэрыторыях. У такой сітуацыі чарнобыльцам толькі і застанецца, што ўзняць рукі ўгору.**

— Таму я і кажу: паколькі канцэпцыя сама па сабе негрунтоўная, непераканаўчая, не прынятая ў навуковым свеце, яна павінна быць вернута ў Акадэмію навук Беларусі на нармальнае, аб'ектыўнае абмеркаванне. А сёння неабходна вярнуцца да ранейшай гуманнай канцэпцыі Акадэміі навук. Ці можа лічыцца гуманнай «новая» канцэпцыя, калі яна ўшчамляе інтарэсы ледзь не паўтара мільёна чалавек у зоне забруджвання? Яны ўжо страцілі права на сацыяльную абарону, а дзеці, з іх слабым здароўем, — права на аздараўленне.

Паўтаруся: «новая» канцэпцыя — гэта яўны сацыяльны заказ. Наогул, дзяржава, выканаўчая ўлада занялі па чарнобыльскай праблеме няправільную пазіцыю. І мне думаецца, што ў дадзеным выпадку аўтары канцэпцыі ў чымсьці ўвялі ўрад у зман, замест таго, каб паказаць яму суровую рэчаіснасць.

Маўляў, самы цяжкі паслячарнобыльскі час мы перажылі ўжо, пачаўся так званы «аднаўленчы перыяд» і г. д. На самай жа справе, ні па стану здароўя насельніцтва, ні па якасці харчавання ніякага паляпшэння ў забруджаных раёнах няма. Пра гэта сведчаць усе даныя, сумленная навука. Медыкі на апошніх па часе канферэнцыях прызналі, што не толькі па раку шчытападобнай залозы (гэта, дарэчы, зразумела ўжо ва ўсім свеце), але і па ўсіх іншых відах захворванняў сітуацыя пагаршаецца.

Так што ніякага «аднаўленчага перыяду» ў нас не назіраецца і не трэба ўводзіць у зман простых чарнобыльцаў і кіраўніцтва краіны, якое, адштурхоўваючыся ад такой «аптымістычнай» канцэпцыі, можа нарабіць памылак стратэгічнага значэння.

Праўда, пэўную надзею ўсяляе пазіцыя Камісіі па праблемах чарнобыльскай катастрофы Вярхоўнага Савета. Яна разаслала па шматлікіх адрасах афіцыйнае пісьмо, у якім просіць прадставіць «прапановы і састаў удзельнікаў па распрацоўцы навукова-абгрунтаванай комплекснай канцэпцыі мінімізацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС з улікам ступені страт пацярпеўшых тэрыторый і радыяцыйных, псіхалагічных, медыцынскіх, эканамічных, прававых, сацыяльных і дэмаграфічных фактараў».

Такі падыход можна толькі вітаць. Толькі такі пункт погляду на ўсё кола постчарнобыльскіх праблем і патрэбен нашаму грамадству.

**Гутарыў Валерый ЧАРНЯЎСКІ.**

## ПАВОДКА. РУХ АБМЕЖАВАНЫ

**З мэтай захавання ў час веснавога бездарожжа мастоў, штучных збудаванняў, дарожных насыпаў і дарог Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва прыняло рашэнне абмежаваць рух грузавых аўтамабіляў і іншых транспартных сродкаў з 25 сакавіка па 30 красавіка.**

Так, нагрузка на адну вось пры праездзе па дарогах першай катэгорыі (магістралі) не павінна перавышаць 9 тон, II—III катэгорый (дарогі з інтэнсіўным рухам легкавога і пасажырскага транспарту) — 8 тон, IV катэгорыі (дарогі раённага значэння) — 5 тон.

Аднак, як адзначыў начальнік Галоўнага ўпраўлення будаўніцтва і эксплуатацыі аўтамабільных дарог Мінбудархітэктуры Віталь Дзенісенка, абмежаванне не распаўсюджваецца на маршрутныя пасажырскія аўтобусы; аўтамабілі, якія перавозяць медыцынскія прэпараты і прадукты з абмежаваным тэрмінам захоўвання, а таксама семянны фонд для правядзення пасяўной кампаніі. Пропуск іншых транспартных сродкаў, што перавышаюць устаноўленыя восевыя нагрузкі, будзе ажыццяўляцца па спецыяльных разавых дазволах кіраўнікоў мясцовых дарожна-эксплуатацыйных устаноў. Магчыма, некаторыя ўчасткі дарог, у выпадку іх актыўнага разбурэння, на час веснавога бездарожжа будуць закрывацца наогул.

**Уладзімір ХРАМЯНКОЎ, прэс-цэнтр Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва.**

## ПЕНСІЯНЕРЫ ЗЛУЮЦЦА

**Па стану на дваццаць першае сакавіка ў некаторых паштовых аддзяленнях сувязі Гомеля пенсія не была выплачана тым пенсіянерам, якія павінны былі атрымаць яе яшчэ дзесятага сакавіка. Прыблізна такі ж малюнак назіраўся і ў мінулыя месяцы.**

Натуральна, у пенсіянераў, якія ледзь зводзяць канцы з канцамі, настрой ад гэтага псуецца, і некаторыя з іх ва ўсіх грахах вінавацяць паштовых работнікаў: маўляў, колькі можна хадзіць да вас? Тыя ж, вядома, тут ні пры чым. Бо многія прадпрыемствы горада ці прастойваюць, ці працуюць цераз пень-калоду, ад чаго і змяншаюцца бюджэтныя сродкі і страхавыя ўзносы прадпрыемстваў у даходную частку фонду сацыяльнай абароны.

А ў выніку запазычанасць даўжнікоў (а іх у вобласці зараз амаль тры тысячы аб'ектаў гаспадарання) складае больш як сто восемдзесят мільярдаў рублёў. Сярод іх — вытворчыя аб'яднанні «Гомсельмаш», «Карал», радыёзавод, якія не могуць пералічыць гэтыя ўзносы амаль цэлы год. Пенсіянерам ад гэтага — галадна.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# Калгас — родны бацька для селяніна?

**У тым, што калгасная сістэма патрабуе рэарганізацыі, мала хто сумняваецца. Але хто ведае, як гэта зрабіць? Гэтая сістэма ніколі не была эфектыўнай. Спачатку яна трымалася на жорсткім уціску селяніна, а затым на бясконцых фінансанавых «уліваннях» дзяржавы. Але праблема калгасаў стала асабліва актуальная сёння, калі паўстала пытанне аб шматукладнасці сельскай гаспадаркі.**

**У Брэсцкай вобласці шаснаццаць раёнаў, і ў кожным прыкладна каля двух дзесяткаў калгасаў і саўгасаў, з якіх толькі невялікая групка трымаецца «на паверхні», а астатнія фактычна банкруты. Вось і ў Баранавіцкім раёне пяць гаспадарак рэнтабельныя, а астатнія не могуць звесці канцы з канцамі. А гэты раён дае чвэрць мяснай прадукцыі, якая выпускаецца ў вобласці.**

Пры наведванні калгасаў усё больш упэўніваешся, што правесці плаўную рэарганізацыю сістэмы калгасаў наўрад ці ўдасца. Адбылася пэўная метамарфоза. Калгас з рабаўніка і гвалтаўніка неўпрыкмет ператварыўся для селяніна ў роднага бацьку, без якога калгасніку, асабліва пенсіянеру, ужо і выжыць цяжка. І людзі вёскі не жадаюць ніякай рэарганізацыі. Пераважная большасць сялян інтуітыўна разумеюць, што любыя змены іхняга, калгаснага ладу жыцця для іх дабром не скончацца. Проста яны ведаюць, што дачакацца нейкай палёгкі ў іх ужо няма часу. І вяскоўцам хочацца толькі аднаго: каб не стала горш, каб далі спакойна дажыць...

Але праблема нават не ў пенсіянерах, якіх можна зразумець, бо менавіта яны паклалі на калгасны алтар свае зямлю, маёмасць і жыццё, а ў чалавеку ўвогуле. Сістэма парадзіла і выхавала людзей, пазбаўленых ініцыятывы і дзелавітасці. Успомнім: гэтыя якасці ва ўладных структурах выклікалі падазронасць і не дужа заахвочваліся. Чалавек прывык жыць па загаду. Будзе ўказанне — зраблю, а праяўляць ініцыятыву навошта?! Трэба адзначыць, што бацыла абыякавасці паразіла не толькі чалавека працы, але яшчэ больш кіруючы састаў усіх рангаў.

Якім бы тады заняпад і застой ні быў, але калгасы сёння знаходзяцца не на пустым месцы. Ёсць зямля, фермы, жывёла, тэхніка, ды і спецыялісты, нават у самай гаротнай гаспадарцы маюцца, а вынікі працы часта мізэрныя. І зноў жа прыходзіцца сумнявацца, што рэарганізацыя ці нейкі там падзел калгаснай маёмасці закончыцца дабром. Толькі прыход у вёску чалавека новай фармацыі можа рэальна змяніць сітуацыю да лепшага.

У свой час калгас «Рассвет» Баранавіцкага раёна з доўгам у чатыры мільёны рублёў далучылі да суседняга калгаса «Перамога». Зроблена гэта было сілавым метадам, як тлумачылі, у інтарэсах агульнай справы. Такія «саламонавы рашэнні» тагачасныя райкомы прымалі паўсюдна. Калгас-банкрут аб'ядноўвалі з моцнай гаспадаркай, і карціна па раёну адразу ж набывала прывабны выгляд, паказчыкі яўна паляпшаліся.

Але ў 1991 годзе, як толькі распаўся СССР, паўсюдна пачалі развальвацца і прымусова аб'яднаныя калгасы. Справа ў тым, што поўнага зліцця гаспадарак ніколі не было. Пры гэтым кожны лічыў сябе пакрыўджаным. У калгасе «Перамога» лічылі, што «Рассвет» — гэта хамут на іхняй шыі, а ў «Рассвеце» таксама выказвалі нездаволенасць. Маўляў, колькі ні працуй, а ўсё знікае там, у цэнтры.

Толькі не трэба думаць, што «Рассвет» выйшаў з «Перамогі» моцнай гаспадаркай. Доўг амаль у два мільёны савецкіх рублёў застаўся на ім. І ўсё ж праз некалькі гадоў «Рассвет» становіцца адной з самых рэнтабельных гаспадарках раёна. А адбылося гэта пры самых неспрыяльных умовах, пры эканамічнай нестабільнасці ў краіне, калі з усіх бакоў толькі і чуюцца просьбы аб фінансавай дапамозе.

Калгас узначаліў Жэлнаркевіч Віктар Антонавіч. Ветурач і эканаміст па адукацыі. Старшыня пачаў наладжваць адносіны з людзьмі, наводзіць у калгасе парадак. А гэта аказалася справай няпростай. Напрыклад, у адной брыгадзе ўсім кіраваў сямейны клан. Бацька з сынам і двума ўнукамі «рабілі пагоду». Спецыялізаваліся на арганізацыі забастовак і масавых п'янак. Прыйшлося прыкласці пэўныя намаганні, каб усе адчулі, што ў калектыве ёсць кіраўнік.

Вядома, нават самая высокая дысцыпліна на працы не вырашае ўсёй праблемы. Неабходна было прыняць такія эканамічныя рашэнні, якія зрабілі б гаспадарку рэнтабельнай.

Тут мы ўспомнім, што калгасы пацярпелі найбольшыя страты ад інфляцыі і неплацяжоў. Здаў калгас мяса, а грошы атрымаў, у лепшым выпадку, праз месяц, ды і то ад першапачатковай сумы засталася толькі дзесятая частка. У такой сітуацыі гаварыць пра нейкі там прыбытак не прыходзілася.

Жэлнаркевіч вырашае адмовіцца ад паслуг пасрэднікаў і пачынае перапрацоўваць прадукцыю сваімі сіламі. Адкрылі каўбасны цэх, а затым і цэх па перапрацоўцы малака. Лінію за 15 тысяч долараў купілі ў Адэсе. Выбралі самую танную, але тым не менш па вытворчасці прадукцыі даволі эфектыўную. Пры валавым надоі летам 10 тон малака цэх прапускае 6 тон за адну змену. Масла і сыр ідуць нарасхват.

Купляюць арганізацыі і людзі. Значную колькасць забірае бальніца. Дарэчы, надоі малака самыя высокія ў раёне. Перапрацоўка малака акрамя таго, што дае «жывыя» грошы, яшчэ забяспечвае гаспадарку адгонам, які раней прыходзілася купляць на малочным заводзе, і часта вельмі нізкай якасці.

У горадзе калгас адкрыў кіёск, каля якога з самага ранку пенсіянеры займаюць чаргу, бо мяса ў ім прадаецца па цэнах больш нізкіх, чым у магазінах. І гэты кіёск дае калгасу каля 150 млн. у месяц. На тэрыторыі «Рассвета» таксама працуе свой магазін, у якім калгаснікі бяруць тавары ў лік зарплаты. І не таму, што ім няма чым плаціць. Людзі бачаць у гэтым выгаду. Між іншым, зарплата калгаснікам выплачваецца рэгулярна, і яна адна з самых высокіх у вобласці — у сярэднім 661 тыс. рублёў. Калгас ужо чатыры гады, як не браў у дзяржавы крэдытаў. Пры размове Віктар Антонавіч некалькі разоў падкрэсліваў, што трэба жыць па даходах. Здавалася б, простая ісціна, але іменна ёй найчасцей і грэбуюць. У калгасе ж уведзена жорсткая эканомія. Калі ў 1993 годзе для тэхнікі закуплялася 163 тоны бензіну і 425 тон дызельнага паліва, то летась расход скараціўся ўдвая. Дзеля эканоміі ўся тэхніка, акрамя трох аўтамашын, пераведзена на больш таннае дызпаліва.

Сёння ў кіраўніцтва галава не баліць, дзе дастаць гаручага для пасяўной. Ёсць пэўны запас саляркі, бензіну, запчастак.

Пішучы гэтыя радкі, я найперш хачу падкрэсліць, што многае залежыць і ад кіраўніка, ад чалавека, які здольны мысліць маштабна і не прытрымліваецца нейкіх штампаў і шаблонаў.

Многія калгасы скупляюць у насельніцтва цялят. Некалькі месяцаў патрымаюць, давядуць да пэўнай вагі і здаюць на мяса. Купляе маладняк і «Рассвет», але для таго, каб папоўніць статак. На калгасным комплексе ўтрымліваецца паўтары тысячы цялушак, якія пасля выбракоўкі і штучнага асемянення прадаюцца іншым гаспадаркам. Прыбытак ад гэтага атрымліваецца значны.

Віктар Жэлнаркевіч упэўнены, што для таго, каб выжыць, неабходна праяўляць актыўнасць і мабільнасць. І выказаў шкадаванне, што не заўсёды ўсё атрымліваецца так, як хацелася б. Хаця наконт актыўнасці ў калгасе, здаецца, поўны парадак. Наладжаны выпуск металічнай сеткі, керамзітавых блокаў, працуе сталярны цэх...

Сваім намеснікам Жэлнаркевіч паставіў Яўгена Есіса, марака-падводніка, які, адслужыўшы пятнаццаць гадоў, вярнуўся на радзіму. Яўген Уладзіміравіч у асноўным адказвае за будаўніцтва. Толькі за мінулы год калгас сваімі сіламі адрамантаваў і пабудаваў каля 15 аб'ектаў. Дзесяць дамоў неўзабаве бясплатна атрымаюць работнікі калгаса. Пабудавана і царква.

Але звернемся да людзей, тых, хто жыве і працуе ў калгасе. Тут карціна тыповая для Беларусі, яна яскрава паказвае, у якіх дэмаграфічных цісках апынулася вёска. Пенсіянераў у калгасе 728 чалавек, з якіх працуюць толькі 48, а работнікаў дапенсіённага ўзросту — 205 чалавек. На аднаго працуючага прыпадаюць тры пенсіянеры, і іх не адкінеш, як непатрэбны баласт. Бо, як ужо гаварылася, іменна яны заклалі падмурак гэтага калгаса. Любая змена ўласнасці нясе для пенсіянераў пагрозу. Фермерам старыя людзі не патрэбны, як і акцыянерным таварыствам пенсіянеры будуць абузай. Калгасы ж пры ўсіх сваіх мінусах усё ж дапамагаюць людзям. І часам гэтая дапамога даволі значная.

У «Рассвеце» пад калгасную бульбу адпускаецца 10 гектараў, а для вяскоўцаў — 250. Здараецца так, што чалавек і не ведае, дзе яго ўчастак, бо садзіць, абворвае ды капае калгасная тэхніка. Больш за трыста кароў пенсіянераў таксама знаходзіцца на ўтрыманні калгаса. Я не буду пералічваць астатнія льготы, дастаткова сказаць, што і пахаванне нябожчыкаў (труна, транспарт) калгас бярэ на сябе.

Вось такая сітуацыя ў цэлым. Можна не сумнявацца, што такі спецыяліст, як Віктар Жэлнаркевіч, выдатна справіўся б і з прыватнай фермай. І хаця ён згодзен, што форму ўласнасці трэба мяняць, тым не менш, выступае за захаванне існуючай на вёсцы інфраструктуры. Магчыма, на дадзеным адрэзку часу ў гэтым і ёсць здаровы сэнс.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# Вялікі зямельны перадзел або новая гульня ў рэформы?

**Сеяць або не сеяць — гэта пытанне, роўнае сёння па значэнню гамлетаўскаму, вырашаюць для сябе калгасы і саўгасы Віцебскай вобласці. Праўда, «зарывацца» ім не даюць, загадана ўсё-такі сеяць, і нават ёсць сякая-такая надзея, што сапраўды адсеюцца.**

— Сяўбу вобласць правядзе, — сказаў у гутарцы з карэспандэнтам першы намеснік старшыні камітэта па сельскай гаспадарцы і харчаванню Віцебскага аблвыканкома Аляксандр Азарчанкаў, перш чым мы перайшлі да ўласна «парламенцкіх» пытанняў. — Сродкі для таго знайшлі. 400 мільярдаў рублёў датацый атрымала вобласць з рэспубліканскіх крыніц на «выраўноўванне» прыродна-кліматычных і эканамічных умоў гаспадарання. Па ацэнках спецыялістаў, на 25 працэнтаў горшых, чым сярэднерэспубліканскія. Грошы гэтыя накіраваны на падрыхтоўку да правядзення веснавой сяўбы, рамонт тэхнікі. Яшчэ 55 мільярдаў рублёў крэдытных рэсурсаў будзе мабілізавана непасрэдна ў вобласці, яны накіроўваюцца на цэнтралізаваны закуп мінеральных угнаенняў.

Дэпутатам Вярхоўнага Савета Аляксандр Азарчанкаў стаў па выніках першага галасавання ў маі мінулага года, так што паспеў «прымерыцца» да высокага крэсла яшчэ да пачатку работы сесіі. Таму запыталася ў Аляксандра Міхайлавіча, якую перспектыву бачыць для парламента, прынамсі, зыходзячы з яго саставу.

— Мне, як аграрніку, — адказаў субяседнік, — імпануе, што ў новым Вярхоўным Савеце шмат прадстаўнікоў вёскі. Пэўна, выбаршчыкі таксама лічылі, што ўлада павінна быць у людзей «ад зямлі». Аграрыі паспелі яшчэ да адкрыцця першага пасяджэння правесці вялікую падрыхтоўчую работу, вызначыцца. Думаю, Вярхоўны Савет павінен і здольны знайсці ўзаемаразуменне і з Прэзідэнтам, бо мэта ў нас адна: на аснове новых законаў забяспечыць развіццё Беларусі, перш за ўсё — эканамічнае развіццё.

**— Як вы лічыце, што павінен у першую чаргу зрабіць новы парламент?**

— Вярхоўны Савет якраз і чакаюць менавіта праблемы эканомікі. І пачынаць трэба з падтрымкі калгасаў, саўгасаў. Дэпутацкая аграрная фракцыя на сваіх пасяджэннях распрацавала праграму рэфарміравання вёскі. У аснове яе ляжыць змяненне формаў уласнасці на зямлю. Пакуль у нас іх дзве — дзяржаўная і прыватная. Мы прапануем увесці калектыўна-долевую ўласнасць у форме зямельных надзелаў удзельнікаў агульнай вытворчасці. Гэта здыме бар'ер для стварэння арганізацыйна-гаспадарчых структур на вёсцы і дасць магчымасць шырэй выкарыстоўваць прынцып долевага ўдзелу ў размеркаванні прыбытку, павысіць матэрыяльную зацікаўленасць працуючых.

Элементы такой зацікаўленасці ўводзіліся, і заўсёды гэта прыносіла поспех. Так, напрыклад, на нарадзе па жывёлагадоўлі ў Прэзідэнта Рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі ў якасці добрага ўзору для перайманія названа гаспадаранне ў калгасе «Дружба» Пастаўскага раёна. І гэта на Віцебшчыне, дзе і прыродна-кліматычныя ўмовы горшыя, і паказчыкі ў сельскай гаспадарцы. Тады як 133 гаспадаркі вобласці (амаль трэць) закончылі год са стратамі, а 471 — запазычанасцю па выплаце заробку, калгас «Дружба» меў на рахунку 2,5 мільярда рублёў. І гэта пры тым, што тут рэгулярна выплачваўся заробак. З прыбыткам спрацавалі ўсе галіны, не толькі свінагадоўчы комплекс. За год рэалізавана прадукцыі на 34 мільярды рублёў. А трымаецца калгас таму, што працуе гаспадарчы разлік ва ўсіх шасці вытворчых падраздзяленнях.

**— Значыць, праблема вёскі — у ёй самой? Але ж, здаецца, такая рэформа ўжо была, і вынік яе вядомы...**

— На жаль, калі мы гаворым аб абавязку перад вёскай, то гэта небезпадстаўна. Існуюць і непарытэт цэн, і несвоечасовасць разлікаў, якія робяць вёску заложніцай перапрацоўчых вытворчасцей. Нядаўна пабываў у Германіі, куды быў запрошаны з групай спецыялістаў сельскай гаспадаркі вобласці на арганізаваную для нас вучобу. У Германіі літр малака эквівалентны 1,5 літра паліва. У нас жа — 400 грамам паліва. У нас кошт літра малака ў два-тры разы ніжэй, чым мінералкі. А ў цэнах на прадукцыю вёскі і для вёскі разрыў у 5-6 разоў.

Неплацяжы, несвоечасовая аплата за атрыманую прадукцыю таксама найбольш балюча б'юць па вёсцы, бо тут доўгі цыкл ад укладання сродкаў да гатовага прадукту. Таму, лічу, рэформа АПК павінна пачацца з рэформы банкаўскай сістэмы, у аснову якой трэба пакласці пастаянна дзеючую сістэму ўзаемаразлікаў з акцэптаванай формай плацяжоў. Узяць тую ж «Дружбу»: яна нікому не павінна, а ёй завінаваціліся спажыўцы 3 мільярды рублёў. Ці справядліва гэта? Сельскагаспадарчы вытворца, які адгрузіў прадукцыю, здаў дакументы ў банк і праз устаноўлены тэрмін не атрымаў адмовы ад атрымання, павінен мець залік на рахунак кошту адпраўленага. Задача банка — адшукаць на гэта грошы: ці то на рахунку пакупніка, ці то залічыць як крэдыт.

Разлікі, што пацвярджаюць гэтыя прапановы, я ўзяў з сабой на сесію Вярхоўнага Савета. А таксама разлікі, якія даказваюць неабходнасць дыферэнцыраванага падаткаабкладання або ўвядзення сістэмы надбавак да закупачных цэн сельскаму таваравытворцу ў залежнасці ад прыродна-кліматычных і эканамічных умоў рэгіёнаў. Ці можна патрабаваць аднолькавай аддачы, скажам, у Гарадоцкім і Нясвіжскім раёнах рэспублікі? Разавыя пералічэнні ў адказ на просьбы — гэта не выйсце. Існуючы парадак цэнаўтварэння з выраўноўваннем умоў гаспадарання праз зямельны падатак не ўлічвае такіх важных фактараў, як забяспечанасць рэсурсамі, дробнанаселенасць вёсак, дрэнныя транспартныя камунікацыі. А ўсё гэта характэрна для Віцебшчыны.

Гэтыя меркаванні спадзяюся прывесці пры разглядзе праграмы рэфарміравання АПК, праект якога распацаваны НДІ Мінэканомікі. Аднак ён патрабуе дапрацоўкі і ўдакладнення.

**Паліна АЛЯКСАНДРАВА.**

# Як перазімавалі пасевы і пладовыя дрэвы?

**Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў Белгідрамеце, на палях у большасці раёнаў адзначаецца снежнае покрыва вышынёй ад 25 да 50, у Мядзельскім і Пастаўскім раёнах — да 60 сантыметраў (на 15—35 сантыметраў вышэй звычайнага).**

**Толькі па ўсходняй палавіне Магілёўскай і Гомельскай абласцей снегу менш — каля 10—20 сантыметраў. Глыбіня прамярзання глебы на ўсходзе і паўднёвым захадзе рэспублікі дасягае 1—1,5 метра, што на 40—95 сантыметраў перавышае шматгадовыя значэнні.**

Па паступаючых даных з метэастанцый перазімоўка пасеваў на асноўных плошчах праходзіць паспяхова. У перыяды найбольш моцных маразоў, калі тэмпература паветра панізілася да -24, -29, а ў некаторых раёнах — да -30, -35 градусаў, на большай частцы рэспублікі на палях было дастаткова снегу, які аберагаў іх ад уздзеяння нізкіх тэмператур. Мінімальная тэмпература глебы на глыбіні залягання вузла кушчэння азімых вагалася ад -2 да -10 градусаў. Аднак у асобных усходніх і паўднёва-заходніх раёнах Беларусі, дзе вышыня снегу ў моманты пахаладання складала 10—15 сантыметраў і менш, глеба на глыбіні 3 сантыметраў ахаладжалася да 11—14, месцамі ў Брэсцкая вобласці — да 16—17 градусаў марозу. Тут магчымы пашкоджанні і частковая гібель зімуючых культур, асабліва ячменю, рапсу, слабаразвітых пасеваў збожжа і канюшыны. Працяглае ўздзеянне нізкіх тэмператур выклікала апасенне за перазімоўку садоў.

На працягу зімы метэастанцыямі двойчы праводзілася адрошчванне проб азімых і шматгадовых траў, галінак пладовых дрэў для ўстанаўлення іх жыццяздольнасці. Аналіз паказаў, што ў большасці ўзятых проб зрэджанасць склала да 10 працэнтаў раслін, гэта адпавядае натуральнай гібелі. У асобных пробах на наглядальных участках у Любані, Брэсце і Драгічыне яна аказалася павышанай — 11—20 працэнтаў. Прычынай павышанай зрэджанасці з'явілася вымярзанне пасеваў.

Вынікі адрошчвання галінак пладовых дрэў пацвердзілі меркаванні аб магчымых пашкоджаннях. Месцамі па захаду Віцебскай вобласці адзначана пацямненне адно- і двухгадовай драўніны, пашкоджанне ліставых і кветкавых пупышак складае каля 15—30 працэнтаў. На астатняй тэрыторыі рэспублікі ў асобных садах таксама назіраецца падмярзанне пупышак, праўда, не такое значнае.

## «НАРОД, БЕЛАРУСКІ НАРОД!..»

# САКАВІК — МЕСЯЦ ТРЫВОГІ НАШАЙ

*Па старонках друку*

ТОЕ, што Максім Багдановіч неўміручы, вечны, — гэта, безумоўна, аксіяматычная ісціна. Не патрабуе асаблівага доказу і меркаванне, што шмат якія радкі паэта сёння гучаць надзвычай надзённа. Але вось не думаў, што будзе такой актуальнай газетная рубрыка, названая яго радком «Народ, Беларускі народ!..»

Рубрыка была абвешчана ў нумары «Звязды» за 2 сакавіка. А літаральна назаўтра, разгарнуўшы першы сакавіцкі нумар тыднёвіка «Свободные новости плюс», я ўбачыў вялікую, на ўсю паласу (нельга было не ўбачыць) «шапку»: «Белорусы: национальный фантом?» Над сенсацыйным загалоўкам-пытаннем ішоў не менш інтрыгуючы буйны курсіў: «Любимая фраза лидера национально озабоченной части электората: «Жыве Беларусь!» — вызывает во мне намного большую озадаченность, чем, к примеру, высказывания о бессмертии Ильича. Потому как хотя бы факт существования вождя Мирового пролетариата сомнений не вызывает. Что касается белорусской нации... Впрочем именно на эту тему я предложила порассуждать достаточно известным людям». Паразважаць на тэму «Ці існуем мы, беларусы, у сапраўднасці або з'яўляемся толькі фантомам, г. зн. прывідам, зданню, міфам?» вядучая паласы, журналістка Вольга Тарасевіч, прапанавала мастаку Андрэю Савіцкаму, спеваку Аляксандру Саладуху і дэпутатам Вярхоўнага Савета Андрэю Клімаву і Людміле Гразновай (называю ў такім парадку, у якім размешчаны інтэрв'ю). Першаму з іх, як і трэба было чакаць (калі мець на ўвазе яго палітычную арыентацыю), пытанне вельмі спадабалася. І ён ахвотна, «ничтоже сумняшеся», разважае: «С чисто географической точки зрения, безусловно, существует живопись, созданная в Беларуси. С другой стороны, формальные стилевые признаки белорусской живописи в целом отсутствуют... В принципе, средний белорус, как правило, является простолюдином... Собственно высокая культура — поэзия, философия, искусство — в Беларуси не развилась... Трагедия так называемой «адраджэнцкай» культуры в том, что начиная с XIX века ее основной темой была фраза «людзьмі звацца...»

Развагі больш чым арыгінальныя, ці не праўда? Калі трымацца такой логікі, дык Радзішчаў з яго «Падарожжам з Пецярбурга ў Маскву», Грыбаедаў з яго «Горам ад розуму», Пушкін з яго «Яўгеніем Анегіным» і «Во глубине сибирских руд», Талстой з яго «Севастопальскімі апавяданнямі» і «Вайной і мірам», Чэхаў з яго марай «сохранить достоинство среди людей» дапусцілі вялікую прамашку, трагічна памыліліся ў выбары асноўнай тэмы.

Праўда, іншыя аўтары паласы не падтрымалі прапанаваную ім, мякка кажучы, дзіўную гульню «ў фантомы», не пагадзіліся з вызначэннем беларусаў як «простолюдинов», як «серой массы, которую именуют белорусским народом» (словы В. Тарасевіч). «Я не согласна, — адказвае эканаміст і дэпутат Людміла Гразнова. — Белорусская политика, к примеру, не безлика.. Сейчас мы приобретаем настоящую политическую элиту: людей, обладающих культурой, умением вести диалог, представляющих перспективы развития республики и верящих, што белорусы станут ничуть не хуже западных соседей. Политиками можно считать и журналистов. В этом смысле уровень независимой белорусской прессы — уровень европейский. Взять хотя бы Юрия Дракохруста. А ведь таких, как он, немало».

Пераконваешся, што, сапраўды, ідэі лятаюць у паветры і... «выпадаюць» у выглядзе публікацый на старонках друкаваных выданняў. У першым, зноў-такі за сакавік месяц, нумары «Народнай волі» змешчаны артыкул вядомага літаратуразнаўцы і публіцыста Сямёна Букчына на тую ж, беларуска-нацыянальную, тэму. Пад характэрнай назвай: «Где мы? Что мы? Попытка национального самоопределения». Артыкул разбіты на раздзелы, і першы з іх аўтар так і назваў: «Существуют ли белорусы как нация?» і растлумачвае, чаму так ставіць пытанне: «Общеизвестны штампы в определении белорусов — народ толерантный, умеренный. Кстати, мы сами и родили эти штампы и пустили их в широкий обиход... Образ толерантного белоруса кочует по страницам западной прессы. Когда речь о Беларуси заходит в польской печати, появляется стойкий стереотип унылого, нищенского «коммунистического заповедника». Известный польский диссидент, редактор многолетнего прибежища польских вольнодумцев, парижской «Культуры» Ежи Гедройц вообще засомневался: «Есть повод задуматься над тем, существуют ли еще белорусы как нация...» У адрозненне ад В. Тарасевіч С. Букчын не сумняваецца, што беларусы як нацыя, як народ існуюць, з'яўляюцца пэўнай этнічнай рэальнасцю, і свой аналітычны артыкул заканчвае слушнымі, бадай, словамі: «Но что б ни было сказано в сердцах, придется учиться отличать добро от зла — и в собственной истории, и в сегодняшнем дне. Без этого — никуда...»

Тыя ж самыя ідэі і трывожныя пытанні, што лятаюць у сакавіцкім паветры і «выпадаюць» у выглядзе газетных радкоў, выразна адбіліся ў нядаўніх выступленнях публіцыста-палітолага Анатоля Майсені («Народная газета» за 7—11 сакавіка) і журналіста Аляксандра Старыкевіча («Свабода» за 7 сакавіка). «Процесс динамичной экономической и военно-политической интеграции с Россией несет для Беларуси не только угрозу частичной или полной ампутации суверенитета как права самостоятельного принятия решений, определяющих судьбы нации и государства, — піша ў сваім каментарыі да вынікаў візіту Прэзідэнта Беларусі ў Маскву А. Майсеня. — Обратной стороной этого процесса является реальная и быстрая перспектива демократических и в особенности рыночных реформ в Беларуси». І далей: «И здесь мы подошли к коренному вопросу современной истории Беларуси: «Способны ли мы, белорусы, сами решать свою судьбу?», а значит — «Существует ли белорусская нация, наделенная самосознанием и способностью к самоорганизации в рамках национального государства? Достойны ли мы, белорусы, дарованного нам историей суверенитета?» В истории независимой Беларуси не найти однозначного ответа на эти проклятые вопросы».

А. Старыкевіч спрабуе ўсё ж знайсці адказ на некаторыя з гэтых самых «праклятых» пытанняў. Параўноўваючы нашу сітуацыю са становішчам у іншых краінах, у краінах Балтыі, журналіст слушна зазначае,.што першапрычына адрознення — адносіны народа да нацыянальных святынь. «В Беларуси же, — працягвае ён далей, — моральные ориентиры сбиты напрочь. Это результат целенаправленной политики, которая особенно активно проводилась, начиная с 1917 года... Поэтому нужно четко осознавать: то, что мы называем белорусским народом, на добрых три четверти состоит из советских людей. Увы, но «советизация» имела наибольший успех именно в Беларуси. Белорусы не просто стали национальным меньшинством на родной земле». Што гэта менавіта так і красамоўным пацвярджэннем таго, наколькі дэфармаваныя пачварнымі эксперыментамі нацыянальная свядомасць і гістарычная памяць беларуса, могуць служыць надрукаваная нядаўна заява прадстаўнікоў так званага навуковага аб'яднання так званых «Гістарычных ведаў» пад загалоўкам «25 сакавіка — свята прыхільнікаў капіталізму(?!) і безапеляцыйнае сцвярджэнне іх саратніка па барацьбе з беларушчынай, гора-філосафа (падпісваецца: «кандыдат філасофскіх навук»), што «белорусский народ приносится в жертву интересам американской, натовской военщины, и все ради того, чтобы ничтожная кучка политиканов могла подбирать крохи со стола западных капиталистов» (?!). Так вось расцэньваецца імкненне быць незалежнымі, самім вызначаць сваю палітыку, выбіраць сабе партнёраў па супрацоўніцтву.

І смех, і грэх. Трагікамічнае, камічнае суседнічае з трагічным. Як тут зноў не ўсклікнуць услед за пэтам: «Народ, Беларускі народ!..»

**Анатоль ВЯРЦІНСКІ.**

*З ПОШТЫ РУБРЫКІ*

# КУРАПАТЫ — МЕСЦА МАЙГО БОЛЮ...

Нядаўна споўнілася 93 гады з дня нараджэння паэта-лірыка, аўтара зборнікаў «Кляновыя завеі», «Светацені», «Ветразі» і інш. Тодара Кляшторнага. Яго дзяцінства і маладосць прайшлі ў вёсцы Парэчча Лепельскага раёна. Успамінае яго равеснік, аднавясковец Іван Паранок: «Сям'я ў Кляшторных была вялікая і складалася з чатырох братоў і трох сясцёр. Няпроста было малазямельнаму Кляшторнаму-старэйшаму пракарміць такую сямейку. Пагэтаму прыходзілася арандаваць зямлю ў мясцовых багацеяў, наймацца да іх на працу. Вяскоўцы часта бачылі, як сыны разам з бацькам садзіліся на павозкі і накіроўваліся на працу ў поле.

Усё Парэчча ведала сям'ю Кляшторных як вельмі дружную, старанную, працавітую, як людзей, якія ахвотна дапамагалі суседзям. Мне асабліва помніцца Тодар, бо мы былі амаль аднагодкі, разам хадзілі ў школу, на вечарынкі. У 1924 годзе ён пакінуў вёску і стаў вучыцца на рабфаку ў Оршы. Неўзабаве стаў знакамітым паэтам.

Шмат гадоў імя Тодара Кляшторнага замоўчвалася — як ворага народа. Зараз вядома, што гэты таленавіты паэт і сумленны чалавек быў несправядліва абвінавачаны і расстраляны ў 1937 годзе ў Курапатах. Такі вось лёс сябра майго дзяцінства, — успамінае з горыччу Іван Паранок. — Жыве ў маёй душы светлая памяць пра яго».

Па ініцыятыве аддзела культуры Лепельскага гарвыканкома нядаўна прынята рашэнне аб ушанаванні памяці паэта-земляка. Створаны музей яго імя ў суседняй з Парэччам вёсцы Камень, у памяшканні Каменскай бібліятэкі. З гэтай нагоды прыязджалі дзве дачкі Кляшторнага — Тадзіяна Тодараўна (жыве ў Віцебску, таксама піша вершы) і мінчанка Мая Тодараўна. Яны прывезлі для экспазіцыі музея хоць і нешматлікія, але вельмі каштоўныя матэрыялы, якія гавораць пра трагічны лёс іх бацькі. Прагучалі ў сціплым музейчыку радкі з верша Тадзіяны Кляшторнай:

*У бары, абветраным вясною,*<br>
*Белыя падснежнікі цвітуць.*<br>
*Курапаты — месца майго болю,*<br>
*Смутку, што ніколі не зыдуць.*<br>
*Праўду ў Курапатах не схавалі,*<br>
*Не спаліць яе і не забіць.*<br>
*Каб карэнні зла не прараслі,*<br>
*Мы ўсё гэта мусім не забыць!*

— Народ гэтага не забудзе, — гаворыць Тадзіяна Тодараўна. — Не мае права забыць. Веру, што ў Курапатах узнімецца помнік, які будзе нагадваць пра нявінна забітых, у тым ліку і пра майго бацьку, у лёсе якога адбіўся лёс майго шматпакутнага народа.

**Ілья ЯНУШ,**<br>
**навуковы супрацоўнік Лепельскага краязнаўчага музея**

*г. Лепель.*

# СУМНЫ РОЗДУМ ЛЯ ЭКРАНА

Радыё і тэлебачанне, як вядома, закліканы не столькі забаўляць чалавека, колькі ўзбагачаць яго пэўнымі ведамі, удасканальваць яго і, такім чынам, уплываць на працэс паляпшэння ўсяго грамадства. У дачыненні да нашага Беларускага тэлебачання гэта азначае, што яго галоўнай задачай на сённяшні дзень з'яўляецца сцвярджэнне ідэі нацыянальнага адраджэння, выхаванне нацыянальнай свядомасці, асабліва ў моладзі. Ці выконвае яно гэту задачу?

Не. Пра што гавораць шмат якія перадачы, якія я паглядзеў, напрыклад, у мінулым месяцы. Шмат штучнага, непраўдзівага ўбачыў я ў «Вячорках», якія здымаліся ў Маларыцкім раёне. Неўразумелыя пытанні ўзніклі, калі глядзеў 4 лютага перадачу «Усе мы родам з дзяцінства» (запісвалася ў Гродзенскай вобласці). І адно з іх: чаму на конкурс запрошаны тыя, хто спявае не на роднай мове? Хто-хто, а нацыянальнае тэлебачанне проста абавязана садзейнічаць адраджэнню нашай мовы. Далей — болей... Калі ў папярэдняй перадачы дзеткі спявалі яўна дарослыя песні пра каханне, то ў «Музычным антракце» (6 лютага, 18.35) амаль усе выканаўцы нібыта выскачылі з вар'яцкага дома: крыўляліся па-дзікунску, рэзалі падушкі і канапы, раскідвалі пер'е... Вось, думаў, якую музыку, якую культуру прапануюць нашаму народу, які не толькі не атрымлівае па 3-4 месяцы зарплату, але і не ведае, на якой мове яму гаварыць і спяваць песні. 18 лютага, 15.35, тэлефільм «Маятнік». Нават фільм, прысвечаны класіку беларускай літаратуры, загубленаму берыеўскімі катамі Максіму Гарэцкаму, зроблены на рускай мове. Вось як распладзілася на тэлестудыі бацыла, якая точыць усё нашае, беларускае! Тыя ж думкі апаноўвалі, калі глядзеў перадачу пра Анатоля Ярмоленку і чуў з яго вуснаў «русскую речь». Перадача кідае цень на цудоўнага выканаўцу беларускай песні. Калі так будуць ставіцца да беларускай мовы вядучыя і ўдзельнікі тэлеперадач, то нам ніколі не «дайсці да Беларусі».

Каб не склалася ўражанне, што я згушчаю наўмысна фарбы і бачу толькі негатыўнае, мушу прызнаць, што ёсць нямала перадач добрых і патрэбных. Асабліва хачу адзначыць адну: паўтор музычнай праграмы з трэцяга фестывалю. Добрага слова заслугоўваюць усе выканаўцы, асабліва вядучая канцэрта, музыказнаўца (шкада, не запомніў яе прозвішча). Гэта перадача можа быць узорам не толькі добрага валодання роднай мовай, але і патрыятычнага выхавання людзей, пра што я гаварыў на пачатку свайго ліста.

**Яўген КРАМКО,**<br>
**ветэран вайны і працы.**

*г. Мінск.*

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

# Што набылі і што страцілі дэпутаты Гродзенскага аблсавета, выбіраючы свайго старшыню?

**ЧАТЫРЫ РАЗЫ галасавалі дэпутаты Гродзенскага абласнога Савета, пакуль нарэшце не вызначылі свайго лідэра. Старшынёўскае «крэсла» заняў Аркадзь Іванавіч Карпуць, 1949 года нараджэння, які дагэтуль працаваў кіраўніком Бераставіцкага райвыканкома, а пасля фарміравання прэзідэнцкай «вертыкалі» ўзначаліў раённы Савет.**

Як ужо паведамляла «Звязда», не здолеўшы вырашыць кадравае пытанне 19 сакавіка, дэпутаты ўзялі тыднёвы перапынак і ў аўторак зноў з'ехаліся ў Гродна. Што ж змянілася за тыдзень? Не памяняўся пункт гледжання Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Сямёна Шарэцкага, які зноў рэкамендаваў дэпутатам аддаць перавагу Сямёну Домашу. Не памянялася і пазіцыя дэпутацкай фракцыі аграрнікаў у аблсавеце, якія, у адрозненне ад лідэра сваёй партыі, выказаліся за кандыдатуру дырэктара школы з Гродзенскага раёна Лілii Кашанковай (што дало падставу аднаму дэпутату папракнуць членаў гэтай фракцыі ў адсутнасці партыйнай дысцыпліны). Не збіраліся даваць «зваротны ход» і дэпутаты, якія тыдзень таму падтрымалі С. Домаша. Яшчэ на пасаду старшыні аблсавета быў вылучаны Аркадзь Карпуць. Ён, аднак, перад першым (а ўвогуле трэцім) турам галасавання адмовіўся ад барацьбы за старшынёўскі «партфель», выказаўшы шкадаванне з нагоды таго, што «раней паміж кіраўнікамі вобласці было паразуменне», але цяпер «умяшалася вялікая палітыка, нас пачалі дзяліць на левых і правых». А. Карпуць заявіў, што не будзе «пляміць сваё сумленне», і заклікаў дэпутатаў прагаласаваць за С. Домаша. Маўляў, за што мы павінны яго зневажаць, што ён каму дрэннага зрабіў? Што датычыць Л. Кашанковай, дык яна паведаміла, што будзе «ісці ў гэтым мірным спаборніцтве да канца».

Узяў слова і С. Домаш, папрасіўшы прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі надрукаваць яго выступленне, паколькі «тое, што адбываецца, выходзіць за межы гэтай залы». Каб не было крыватолкаў, пазнаёмім чытачоў з асноўнымі момантамі прамовы дэпутата беларускага парламента. «Ужо не з'яўляецца сакрэтам, — заявіў С. Домаш, — што ўсе сілы «вертыкалі» ў нашай вобласці кінуты на тое, каб не дапусціць выбрання мяне на пасаду старшыні аблсавета, матывуючы тым, што гэта дыктуецца з Адміністрацыі Прэзідэнта. Называецца прычына аб'яўленага мне процідзеяння, якая ў тым, што як дэпутат Вярхоўнага Савета паводжу сябе «няправільна» і не галасую за ўсе прапановы прэзідэнцкай каманды. Так, гэта мае месца, але... Каб падкрэсліць, што гатовы супрацоўнічаць з Прэзідэнтам, я ўступіў у фракцыю «Згода». Пры гэтым адкрыта заяўляў, што падтрымліваю законныя дзеянні, але буду выступаць супраць таго, што супярэчыць Закону. Лічу, што толькі так сапраўдныя прыхільнікі Прэзідэнта, калі яны хочуць, каб ён быў гордасцю народа і дзяржавы, павінны сябе паводзіць і гэтым садзейнічаць хутчэйшаму фарміраванню прававой дзяржавы. Калі такія мае перакананні і паводзіны акружэннем Прэзідэнта і «вертыкаллю» ацэньваюцца як няправільныя, тады што ж у нашай дзяржаве з'яўляецца правільным...»

Адным з канкрэтных сваіх рознагалоссяў з прэзідэнцкім акружэннем С. Домаш назваў адносіны да Указа Прэзідэнта ад 26 снежня 1995 года «Аб некаторых пытаннях забеспячэння дзейнасці мясцовых Саветаў дэпутатаў», якім у парушэнне Закона «Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні» змяняюцца функцыі, зніжаюцца магчымасці і парушаюцца асноўныя прынцыпы арганізацыі работы мясцовых Саветаў, прыніжаюцца іх роля і значэнне ў кіраванні тэрыторыямі». Паводле слоў С. Домаша, ён «згодны, што неабходна ўдасканальваць структуру і дзейнасць мясцовых Саветаў, і яшчэ два месяцы таму прапанаваў адказным работнікам Адміністрацыі Прэзідэнта свае паслугі ў распрацоўцы праекта і арганізацыі ўнясення змяненняў у закон. Аднак да цяперашняга часу імі нічога не зроблена, каб гэта ажыццявіць, затое працягваецца грубае ўмяшанне ў дзейнасць мясцовых Саветаў. Дапускаю, што калі сфарміравана ў Прэзідэнта нездаволенасць мной, дык вышэйсказанае з'яўляецца адной з прычын». Звяртаючыся да старшыні аблвыканкома А. Дубко, які сцвярджае аб складанасцях у сувязі з сумяшчэннем абавязкаў старшыні аблсавета з дэпутацтвам у парламенце, С. Домаш сказаў, што «калі тут узнікаюць цяжкасці, дык толькі асабіста для мяне, але я ішоў да іх свядома ў інтарэсах вырашэння праблем вобласці, паколькі аб гэтым мы ў свой час з вамі дамаўляліся».

Акрамя таго, С. Домаш выказаў «спачуванне за праяўленую маладушнасць, адсутнасць смеласці стаць на маю абарону ў крытычны для нас момант маім былым саратнікам па рабоце ў аблвыканкоме, некаторым старшыням гаррайвыканкомаў, а таксама тым, каго ў свой час павінен быў звольніць, аднак па-чалавечы пашкадаваў. Калісьці вы кляліся мне ў адданасці ў літаральным сэнсе гэтага слова. Цяпер жа праявіліся самымі актыўнымі барацьбітамі супраць мяне. Я хачу вам нагадаць, што жыццё гэта як кола, у якім пункты ўзлёту і падзення пастаянна мяняюцца. Нязменнымі павінны заставацца прыстойнасць і чалавечнасць. Таму калі вам стане цяжка, мае ўчарашнія сябры — сённяшнія праціўнікі, прыходзьце да мяне, я заўсёды знайду ў сабе сілы, каб вам дапамагчы, нягледзячы на тое, як вы цяпер абыходзіцеся са мной. Мне шкада вас, таму што заўтра з вамі зробяць тое ж, што і са мной, тым больш, што людзі без прынцыпаў нікому не патрэбны».

... Дэпутаты ў трэці раз, і зноў безвынікова, выказаліся па кандыдатурах Л. Кашанковай і С. Домаша. Стала відавочна, што выбары зайшлі ў тупік і далейшае галасаванне па тых жа самых прэтэндэнтах не мае сэнсу. Тады, дзякуючы кансультацыям паміж Л. Кашанковай, С. Домашам і старшынёй аблвыканкома А. Дубко, была вылучана кампрамісная кандыдатура А. Карпуця, які,і стаў кіраўніком аблсавета. Што ж набылі і што страцілі дэпутаты Гродзенскага аблсавета, выбіраючы свайго старшыню? Станоўчае тое, што яны нарэшце гэтага старшыню маюць. Вакол яго, мяркуючы па выніках галасавання (54 галасы «за» і толькі 2 «супраць») у дэпутатаў ёсць шанц аб'яднацца. Цяпер можна брацца за першачарговыя пытанні, якія хвалююць жыхароў Прынёманскага краю. Ну, а што страчана... Аб гэтым няхай задумаюцца перш за ўсё самі дэпутаты, а таксама ўсе, хто меў дачыненне да арганізацыйнай сесіі аблсавета.

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

РЭХА «ПРАМОЙ ЛІНІІ»

# ЭФЕКТ? САМЫ ВЫСОКІ!

**10, 17 і 20 лютага г. г. на старонках «Звязды» быў апублікаваны завочны дыялог — «прамая лінія» Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Сямёна Шарэцкага з чытачамі нашай газеты. На працягу амаль двухгадзіннай тэлефоннай размовы паміж імі, якая адбылася напярэдадні, у пісьмах і званках, што паступалі ў рэдакцыю папярэдне на імя Сямёна Георгіевіча, узнімаліся дзесяткі пытанняў і праблем, якія паўсталі перад людзьмі ў цяперашнім складаным, неадназначным і супярэчлівым жыцці. Кіраўнік Вярхоўнага Савета тады падрабязна і вельмі грунтоўна адказаў большасці нашых чытачоў, падказаў, куды трэба звярнуцца, як канкрэтна дзейнічаць у пошуках праўды, вырашэння сваіх крыўдаў і турбот.**

**Аднак у ходзе дыялогу былі пастаўлены і пытанні, што патрабавалі грунтоўнага вывучэння і расследавання з удзелам кіраўнікоў і прадстаўнікоў міністэрстваў і ведамстваў рэспублікі, праваахоўных органаў, «прэзідэнцкай вертыкалі» на месцах. Сямён Георгіевіч адразу ж узяў гэтыя пісьмы і звароты пад свой асабісты кантроль. Як кіраўнік заканадаўчай улады Беларусі, ён папрасіў службовых асоб разабрацца канкрэтна з кожнай заявай, з кожнай праблемай. І вось атрыманы адказы на звароты чытачоў «Звязды» да Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у час правядзення «прамой лініі».**

*У КАСТРЫЧНІКУ 1994 года паміж магазінам «Акадэмкніга», дырэктарам якога я з'яўляюся, і таварыствам з абмежаванай адказнасцю «Сакурыці» быў заключаны дагавор аб сумеснай дзейнасці. Ва ўмовах рынку мы мелі намер па-новаму наладзіць гандаль навуковай літаратурай, прыцягнуць дадатковы капітал для далейшага развіцця такой неабходнай рэспубліцы справы.*

*Пасля капітальнага рамонту памяшкання магазіна адкрылі дзве гандлёвыя залы. У адной размясцілі аддзел навуковай і навукова-папулярнай літаратуры, у другой — аддзел па продажы футравых вырабаў. Падборам тавараў для рэалізацыі ў другім з аддзелаў і займалася ТАА «Сакурыці». Аднак паколькі цэны на футравыя вырабы былі вышэйшыя, чым у іншых гандлёвых кропках, магазін пачаў несці страты. Паміж магазінам і таварыствам пачалі ўзнікаць канфлікты. За маёй спінай прадстаўнікі «Сакурыці» пачалі займацца... падборам і расстаноўкай кадраў. У выніку незаконна наладжаных і праведзеных «сходаў» я быў адхілены ад кіраўніцтва магазінам. Аднак 4 кастрычніка 1995 года народны суд Першамайскага раёна аднавіў мяне на пасадзе дырэктара, а 9 лістапада калегія гарадскога суда Мінска пакінула яго рашэнне ў сіле. Здавалася, законнасць адноўлена. Але выкананне рашэння суда наўмысна зацягвалася, а мяне асабіста яшчэ тры разы(!) незаконна звальнялі... Да выканання службовых абавязкаў мяне так і не дапусцілі. Неаднаразова звяртаўся ў пракуратуру раёна, да начальніка Першамайскага РАУС з просьбай разабрацца і давесці нарэшце справу да канца, аднак зрухаў і да сённяшняга дня няма ніякіх. Дык няўжо ніхто не можа разабрацца ў тым, хто і як павінен ажыццяўляць кантроль за выкананнем рашэнняў судовых органаў?!*

**Іван СУХАН,** *г. Мінск.*

Скарга грамадзяніна І. Сухана разгледжана з вывучэннем матэрыялаў крымінальнай справы, з якой відаць, што заяўнік 30 ліпеня 1995 г. быў звольнены з пасады дырэктара арэнднага прадпрыемства «Акадэмкніга». Суд Першамайскага раёна г. Мінска 4 кастрычніка 1995 г. гэта звальненне прызнаў незаконным і вынес рашэнне аб аднаўленні І. Сухана на ранейшай пасадзе.

22 лістапада 1995 г. суддзя А. Карповіч, лічачы, што судовае рашэнне не выконваецца наўмысна, узбудзіў крымінальную справу па арт. 184(2), ч. 2 КК РБ у адносінах да в.а. дырэктара АП «Акадэмкніга» Г. Шыманскай. Папярэдняе следства па справе праводзілася СА Першамайскага РАУС. Ва ўстаноўлены законам тэрмін расследаванне справы было закончана. У ходзе папярэдняга следства ўстаноўлена, што ў адпаведнасці са Статутам дадзенага АП права назначэння і звальнення дырэктара належыць выключна канферэнцыі прадпрыемства.

4 кастрычніка 1995 г. сход калектыву АП «Акадэмкніга» вынес пастанову аб аднаўленні, у адпаведнасці з рашэннем суда, І. Сухана на пасадзе дырэктара і вызваленні Г. Шыманскай ад выканання абавязкаў дырэктара. Аднак калектыў гэтай жа пастановай абмежаваў паўнамоцтвы І. Сухана, забараніўшы яму заключаць дагаворы і падпісваць фінансава-плацежныя дакументы.

І. Сухан, хоць у яго з калектывам АП адзначаліся пэўныя непаразуменні, атрымліваў заработную плату да 26 снежня 1995 г., пакуль не быў звольнены з работы за сістэматычныя прагулы і іншыя парушэнні. Апошняе звальненне І. Сухан у суд не абскардзіў.

Зыходзячы з акалічнасцей, следчы крымінальную справу ў адносінах да Г. Шыманскай спыніў за адсутнасцю саставу злачынства.

18 лютага 1996 г. пракуратура Першамайскага раёна г. Мінска гэту пастанову, у сувязі з непаўнатой праведзенага папярэдняга следства, адмяніла і вярнула справу на дадатковае расследаванне ў СА Першамайскага РАУС. Далейшае расследаванне справы ўзята на кантроль Пракуратурай Рэспублікі Беларусь. Аб яго выніках вы будзеце праінфармаваны дадаткова.

**В. КАПІТАН,**
**Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь, старшы саветнік юстыцыі.**

*Я — афіцэр запасу. Пасля многіх гадоў службы вярнуўся да бацькоўскага парога, у вёску Красіна Капыльскага раёна. У мясцовы сельскі Савет напісаў заяву з просьбай аб тым, каб, акрамя прысядзібнага ўчастка, дазволілі мне карыстацца прылеглым участкам зямлі каля 0,25 га для выпасу сваёй жывёлы. Згоду на гэта атрымаў. Акультурыў зямлю, абсадзіў участак дрэвамі. У ліпені 1995 года напісаў заяву ў сельсавет з просьбай прыватызаваць абодва надзелы. Але выдзелілі мне ўсяго толькі 0,5 га, а з тых 0,25, пра якія я згадваў вышэй, — усяго толькі 0,04 га... У сесіі выканкома сельсавета я папрасіў аддаць мне лішкі зямлі ў арэнду з правам наступнага выкупу, аднак зрабіць гэта не дазволілі зноў...*

**А. БАБЕНЯ,**
*Капыльскі раён, в. Красіна.*

Заява А. Бабені разгледжана ў час выезду на месца. Згодна з арт. 54 Кодэкса аб зямлі Рэспублікі Беларусь сесіяй Блеўчыцкага сельскага Савета ўстаноўлены памер прысядзібнага ўчастка для абслугоўвання дома і вядзення асабістай падсобнай гаспадаркі 0,5 га. Акрамя таго, на ўмоўную галаву жывёлы выдзяляецца 0,4 га пашы і 0,2 га сенажацей. Бал зямельных угоддзяў — 46,9.

Грамадзяніну А. Бабені рашэннем выканкома Блеўчыцкага сельскага Савета ад 30 кастрычніка 1995 года перададзены ў прыватную ўласнасць па льготнай цане зямельны ўчастак плошчай 0,5 га, які быў яму выдзелены да прыняцця Закона «Аб праве ўласнасці на зямлю». 0,2 га, пра якія піша А. Бабеня, замацаваны за ім як сенажаць, перадачы ў прыватную ўласнасць згодна з Законам «Аб праве ўласнасці на зямлю» не падлягае.

Парушэнняў зямельнага Заканадаўства з боку Блеўчыцкага сельскага Савета не ўстаноўлена.

**У. ЛУЦКІ,**
**старшыня Капыльскага райвыканкома.**

*Паважаны Старшыня Вярхоўнага Савета!*

*Калі ў нас будуць працаваць законы? Я хварэю з самага дзяцінства і да гэтага часу не магу дабіцца справядлівасці. Мяне прызнаюць хворым, далі 3-ю групу інваліднасці і пры гэтым заяўляюць, што я яшчэ магу працаваць. А я нават па гаспадарцы не магу дапамагчы сваёй старой маці. Мае захворванні прызнае і экспертная камісія, і навукова-даследчы інстытут, і рэспубліканская клініка... А толку мала. Звяртаўся да міністра аховы здароўя, але мае пісьмы не даходзілі, а вярталіся назад. А ці можна пражыць на пенсію ў 250 тысяч рублёў, калі мне патрэбны лекі кожны дзень?! Ільготы ж для інвалідаў 3-й групы адмянілі...*

**Вячаслаў ГАЎРЫЛЕНКА.**
*Жыткавіцкі раён, в. Ляхавічы.*

Паважаны Сямён Георгіевіч!

У Міністэрстве аховы здароўя Рэспублікі Беларусь уважліва вывучана пісьмо інваліда 3-й групы ад агульнага захворвання Вячаслава Уладзіміравіча Гаўрыленкі ў сувязі з тым, што ён не згодны з устаноўленай групай інваліднасці.

В. Гаўрыленка, 1949 года нараджэння, цясляр-бетоншчык. У 1961 і 1974 гг. у бытавых умовах атрымаў чэрапна-мазгавыя траўмы. У сувязі з пагаршэннем здароўя ў 1994 г. упершыню ўстаноўлена 3-я група інваліднасці. 29.01.96 г. агледжаны ў Калінкавіцкай міжраённай, а 5.03.96 г. — у Гомельскай абласной медыка-рэабілітацыйных экспертных камісіях. Вызначана 3-я група інваліднасці, даных для вызначэння 2-й групы няма. Улічваючы нязгоду Гаўрыленкі В. У. з гэтымі заключэннямі і для выключэння магчымай экспертнай памылкі хворы запрошаны ў клініку БелНДІ экспертызы працаздольнасці і арганізацыі працы інвалідаў, дзе яму будзе зроблены паўторны медыцынскі агляд і выдадзена заключэнне.

**І. ДРАБЫШЭЎСКАЯ,**
**міністр аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.**

*Нашы дамы пабудаваны ў 1954 годзе. Кожны з нас мае ўчасткі ад 3 да 3,8 соткі. У 1970 годзе быў знесены адзін з дамоў, а мы разам пачалі выкарыстоўваць вызваленую зямлю пад сад і агарод.*

*Але вось у пачатку 1995 года Фрунзенскі райвыканком хадайнічаў перад Мінгарвыканкомам аб адвядзенні зямельнага ўчастка побач з нашымі сядзібамі для будаўніцтва дома для фірмы «Пракон». Хадайнічае аб адвядзенні 7-8 сотак, тым самым грэбуючы нашымі інтарэсамі. На нашы скаргі райвыканком спасылаецца на гарвыканком, а той у сваю чаргу — на ўпраўленне землекарыстання... Кола, адным словам, замкнулася.*

**Г. ШЫНКЕВІЧ, Е. ГОМАН і іншыя.**
*г. Мінск.*

Адміністрацыя Фрунзенскага раёна г. Мінска паведамляе, што ў ходзе разгляду пытання (рашэнне № 7 ад 11.04.95 г.) аб хадайніцтве па адводу зямельных участкаў пад будаўніцтва індывідуальных жылых дамоў грамадзянам Люзінай Т., Салдатавай О., Кручонак В., дамы якіх трапілі пад месца забудовы адміністрацыйнага будынка МНПП «Пракон» (рашэнне МГВ № 692 ад 2.12.93 г.), выканком улічваў магчымасць павелічэння памераў участкаў мяжуючых домаўладанняў, у тым ліку павелічэнне ўчастка г. Шынкевіч Г. на 136 кв. м і ўчастка г. Гоман Е. — на 149 кв. м. Прапануемыя межы ўчасткаў, узгодненыя выканкомам з мяжуючымі домаўладальнікамі, разам з хадайніцтвам былі накіраваны ў Мінгарвыканком.

У рашэнні Мінгарвыканкома № 677 ад 16.11.95 г. МНПП «Пракон» дазволена праектаванне індывідуальных жылых дамоў для грамадзян, дамы якіх зносяцца, з адводам участкаў пад будаўніцтва дамоў па 0.1 га.

Памеры зямельных участкаў для будаўніцтва аб'ектаў будуць удакладнены ў ходзе праектавання і падлягаюць зацвярджэнню гарвыканкомам пасля прадстаўлення заказчыкам праектна-каштарыснай дакументацыі.

**Л. МАТУСЕВІЧ,**
**кіраўнік адміністрацыі Фрунзенскага раёна.**

*Другі раз звяртаюся на адрас «прамой лініі» «Звязды». Раней мая скарга была накіравана ў Пракуратуру Рэспублікі Беларусь, дзе праляжала тры месяцы і вернута мне.*

*У адносінах да мяне з боку работнікаў Вярхоўнага суда і Пракуратуры рэспублікі дапушчана самавольства і беззаконнасць, па іх віне я стаў інвалідам і неабгрунтавана адбыў у калоніі сем гадоў. І да сённяшняга дня Вярхоўны суд і пракуратура скажаюць факты па маёй справе.*

(АД РЭДАКЦЫІ. Сутнасць крымінальнай справы, са сваіх, натуральна, пазіцый і разуменняў, інвалід І групы Мікалай ПЛЯШКО выклаў у пісьме на імя С. Шарэцкага даволі падрабязна, з дэталямі. У якасці доказаў «няправільнасці» асуджэння яго Мікалай Ульянавіч прыклаў копіі прыгавораў народных судоў Івацэвіцкага і Клецкага раёнаў, пастановы прэзідыума Мінскага абласнога суда, адказаў намесніка пракурора Брэсцкай вобласці І. Зайца, першага намесніка старшыні Вярхоўнага суда Беларусі В. Кандрацьева, начальніка ўпраўлення юстыцыі выканаўчага камітэта Брэсцкага абласнога Савета народных дэпутатаў К. Панцэвіча, старшыні Брэсцкага абласнога суда А. Знаешава. І вось яшчэ адзін адказ: дай Бог, каб ён стаў апошнім.)

Паважаны Сямён Георгіевіч!

Пракуратурай Рэспублікі Беларусь грунтоўна разгледжана скарга, якая паступіла ад М. У. Пляшко.

Паведамляю, што прыгаворам народнага суда Клецкага раёна ад 08.01.62 г. Пляшко быў асуджаны па ч. 3 арт. 144 КК Рэспублікі Беларусь да 6 гадоў пазбаўлення волі за тое, што 04.07.61 г., назваўшы сябе ляснічым Лісічанскага лясніцтва Ганцавіцкага раёна, заключыў дагавор з С. Звонкам на продаж 50 куб. м лесу і падманам атрымаў ад яго задатак у суме 205 руб. У той жа дзень ён шляхам падману атрымаў ад В. Аляксейчыка 30 руб. пад маркай продажу яму сена. Пакаранне Пляшко адбыў.

19.03.87 г. прэзідыум Мінскага абласнога суда па пратэсту першага намесніка старшыні Вярхоўнага суда Рэспублікі Беларусь прыгавор народнага суда Клецкага раёна ад 08.01.62 г. у адносінах да Пляшко змяніў, перакваліфікаваўшы яго дзеянні з ч. 3 арт. 144 КК Рэспублікі Беларусь на ч. 2 арт. 144 КК Рэспублікі Беларусь, па якой назначыў пакаранне да 4 гадоў пазбаўлення волі. Змяненне прыгавору ў адносінах да Пляшко выклікана тым, што кваліфікуючая прымета ч. 3 арт. 144 КК Рэспублікі Беларусь - прычыненне значнага ўрону — не была пастаўлена ў віну Пляшко органамі папярэдняга расследавання, таму ў прыгаворы адсутнічае ўказанне аб тым, што злачынства пацярпеўшаму прычыніла значны ўрон, хаця ў сапраўднасці такі ўрон пацярпеўшаму Звонку быў прычынены.

24.08.70 г. Пляшко быў асуджаны народным судом Ляхавіцкага раёна па ч. 2 арт. 144 КК Рэспублікі Беларусь (за махлярства, учыненае паўторна) да 4 гадоў пазбаўлення волі.

Адбываючы пакаранне ў месцах пазбаўлення волі, Пляшко заведама лжыва даносіў рэдакцыям газет «Правда», «Советская Белоруссия», Генеральнаму пракурору СССР аб тым, што былы народны суддзя Ляхавіцкага раёна Сыч А. І. (цяпер нябожчык) атрымаў ад яго хабар у суме 500 руб., у сувязі з чым яму, асуджанаму, была вызначана параўнаўча мяккая мера пакарання. За гэтыя дзеянні прыгаворам народнага суда Івацэвіцкага раёна ад 15.10.73 г. Пляшко асуджаны па ч. 2 арт. 176 КК Рэспублікі Беларусь да 5 гадоў пазбаўлення волі з далучэннем 6 месяцаў неадбытага пакарання па папярэдняму прыгавору і ў адпаведнасці з арт. 24 КК Рэспублікі Беларусь прызнаны асабліва небяспечным рэцыдывістам.

Асуджэнне Пляшко па ч. 2 арт. 176 КК Рэспублікі Беларусь за заведама лжывы данос, спалучаны з абвінавачаннем у цяжкім злачынстве, з'яўляецца абгрунтаваным, таму што матэрыяламі справы яго віна даказана поўнасцю. Ён сам яе не адмаўляў.

Падстаў для апратэставання прыгавору народнага суда Івацэвіцкага раёна ад 15.10.73 г. у адносінах да Пляшко няма.

**В. КАПІТАН,**
**Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь.**

*З 1968 года я працаваў у калгасе «Радзіма» Шчучынскага раёна. З 1989-га быў загадчыкам нафтагаспадаркі. 24 мая 1993 года я быў звольнены па скарачэнню штатаў. Рашэннем суда Ваўкавыска і Ваўкавыскага раёна быў адноўлены на працы загадчыка, аднак праўленне калгаса адмовілася выконваць рашэнне суда... Прызнаць маё законнае права ніхто не хоча: усе спасылаюцца на тое, што 29 снежня 1993 года я напісаў заяву на згоду быць рабочым паляводства. Так, гэта было. Я не працаваў, і ў мяне не было грошай на пражыццё, а заяву напісаў для таго, каб атрымаць адпускныя. На працу ў паляводства не хадзіў з-за нізкай аплаты, а таксама па сямейных абставінах. А 12 верасня 1994 года я быў звольнены за прагулы.*

*Дык вось, у мяне пытанне: якім чынам і дзе я магу ажыццявіць свае права на працу?*

**Васіль ЛЕБЯДЗЕВІЧ,**
*Шчучынскі раён, в. Замасцяны.*

Пракуратурай Гродзенскай вобласці разгледжана заява В. К. Лебядзевіча, якая паступіла ў час правядзення «прамой лініі» ў рэдакцыю газеты «Звязда».

Устаноўлена, што рашэннем народнага суда Ваўкавыскага раёна і г. Ваўкавыска ад 12.10.93 г. В. Лебядзевіч адноўлены на ранейшай пасадзе загадчыка нафтагаспадаркі з-за непрадастаўлення яму пры скарачэнні ўсіх вакантных работ.

Для выканання рашэння нарсуда Ваўкавыскага раёна і г. Ваўкавыска В. Лебядзевіч праўленнем калгаса «Радзіма» Шчучынскага раёна ад 15.10.93 г. адноўлены на ранейшай пасадзе загадчыка нафтагаспадаркі, яму выплачана заработная плата за час вымушанага прагулу ў суме 128.700 рублёў.

У сувязі з тым, што пасада загадчыка нафтагаспадаркі з 1.04.93 г. скарочана, рашэннем праўлення калгаса «Радзіма» ад 15.10.93 г. В. Лебядзевічу прапанавана перайсці на работу шафёрам, слесарам рамонтнай майстэрні, слесарам фермы «Замасцяны», палявадам брыгады «Замасцяны».

Згодна з яго заявай ад 29.12.93 г. праўленнем калгаса «Радзіма» В. Лебядзевіч пераведзены на работу палявадам участка «Замасцяны», аднак работу ў паляводстве не выконваў. За сістэматычны нявыхад на работу без уважлівых прычын праўленнем калгаса 12.04.94 г. ён быў папярэджаны. Аднак і пасля папярэджання В. Лебядзевіч не выйшаў на работу і яму рашэннем праўлення ад 20.04.94 г. аб'яўлена вымова.

Рашэннем праўлення калгаса ад 12 верасня 1994 г. ён звольнены з работы ў паляводстве за прагулы. Лічачы гэтае рашэнне праўлення незаконным, В. Лебядзевіч звярнуўся ў суд з іскам аб аднаўленні на рабоце.

Рашэннем суда Шчучынскага раёна ад 8 лістапада 1995 г. у іску В. Лебядзевічу адмоўлена. Судовая калегія па грамадзянскіх справах Гродзенскага абласнога суда 4 снежня 1995 г. прызнала рашэнне суда Шчучынскага раёна правільным. Падстаў да апратэставання адпаведных судовых пастаноў няма.

**Л. ЦЯРЭШЧАНКА,**
**пракурор Гродзенскай вобласці, дзяржаўны саветнік юстыцыі 3 класа.**

*Працаўнікі калгаса імя Кутузава Навагрудскага раёна паскардзіліся Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на тое, што ў іх гаспадарцы неапраўдана зацягваецца завяршэнне газіфікацыі. Вось што адказаў на запыт Сямёна Шарэцкага міністр эканомікі Георгій БАДЗЕЙ:*

Міністэрства эканомікі ўключыла завяршэнне будаўніцтва газавых сетак у калгасе імя Кутузава Навагрудскага раёна ў праект інвестыцыйнай праграмы на 1996 год за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту, што прадугледжаны Мінсельгасхарчу на фінансаванне комплексных праграм развіцця аграпрамысловага комплексу і забеспячэння аграрнай рэформы.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**
**(Заканчэнне будзе.)**

НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ

# ГАРАДОК № 92

**Афіцыйная назва гэтага месца — ваенны гарадок № 92 Мачулішчы. Некалькі сюррэалістычнае месца. Ідзеш па вуліцы: вось дом № 83, а за ім — 87, потым — 85, спачатку 90, потым — 94 і гэтак далей. Я доўга не мог прыстасавацца. Тым больш, вуліцы ніяк не называюцца. Праўда, гарадок не надта вялікі, урэшце, «падсякаеш» заканамернасць, пачынаеш арыентавацца. У гарадку ёсць тры «мікрараёны»: «шанхай», двух- і пяціпавярхоўкі — як бы сярэдні ўзровень, і элітныя 9-павярховыя дамы. Там жывуць сем'і лётчыкаў, якія служаць у Расіі. У Расіі кватэр не даюць, а тут яны ўжо ёсць. «Шанхайцаў» можна аднесці да мясцовых маргіналаў: яны гоняць самагонку, потым яе п'юць, затым квасяць адзін аднаму насы, падымаючы ўверх працэнт злачыннасці, і без таго высокі.**

**Найбольш актыўнай і свядомай сілай з'яўляюцца жыхары двух- і пяціпавярховых дамоў. У асноўным гэта адстаўныя афіцэры і іх сем'і.**

**На 10 тысяч насельніцтва прыпадае 2 тысячы дзяцей, з іх 1350 — школьнікі.**

## З гісторыі праблемы

У Мачулішчах савецкай улады па сутнасці няма. Юрыдычнае становішча гарадка крыху няпэўнае. Фармальна ён як быццам знаходзіцца пад юрысдыкцыяй Сенніцкага сельсавета. Фактычна сельсавету да гарадка справы няма. Як тут вобразна кажуць, «Сенніца нам — прышый кабыле хвост».

Таксама фармальна ўсё ў гарадку павінна падпарадкоўвацца начальніку гарнізона палкоўніку Даражынскаму. Яшчэ далей — Міністэрству абароны. Лагічны рад на гэтым завяршаецца. Мінабароны мае даволі абмежаваныя магчымасці, каб утрымліваць гарадок на сваім балансе. Ды і ахвоты ў яго на гэта мала.

Справа ў тым, што Мачулішчы ў сваім сённяшнім выглядзе — дзіця суверэнітэту і незалежнасці. Дзіця, мякка кажучы, не самае любімае.

Некалі ў Мачулішчах базіравалася да 3 авіяпалкоў. СССР развалііўся, узніклі асобна Беларусь і Расія, непазбежна пачаўся працэс дзяльбы ваеннай маёмасці. У выніку аэрадром і ваенны гарадок № 92 дасталіся Беларусі, а самалёты разам з лётчыкамі паляцелі ў Расію. Зараз тут стаіць невялікая часць транспартнай авіяцыі, пераведзеная са Сцяпянкі. Сем'і лётчыкаў жывуць у Мінску, гарадок, такім чынам, застаўся сам па сабе. Мінабароны Беларусі ён як бы і непатрэбны. Ва ўсякім разе, міністэрства не мела б нічога супраць, каб Мачулішчы былі зняты з балансу. Рэальна, дарэчы, так і атрымліваецца.

Пасля вываду расійскіх войскаў 10 тысяч жыхароў гарадка павіслі ў паветры. Што ім, жыхарам, зусім не спадабалася.

## Справа выратавання тапельцаў...

Увогуле, звонку Мачулішчы глядзяцца даволі прыемна. Ваенная, я сказаў бы, строгасць і парадак. Дамы нагадваюць шарэнгі воінаў. Падсвядома чакаеш каманды «Смірна!» Праўда, уражанне псуецца гарамі смецця, якія сустракаюцца даволі часта. Самае, можа быць, пастаяннае «радовішча» смецця — якраз побач з амбулаторыяй. Летам тут «лафа» сабакам, пацукам і птушкам. Чаго не скажаш пра людзей. Хоць, вядома, смецце — гэта не самае горшае. Камплект праблем гарадка багаты і паслядоўна папаўняецца.

Што ў гэтым выпадку робяць савецкія людзі? Пішуць у розныя інстанцыі. У Мачулішчах вырашылі інакш: стварылі камітэт самакіравання. На падставе Закона аб самакіраванні...

Выбралі старшыню — Музу Міхайлаўну Шалагінаву, былую выкладчыцу гісторыі і грамадазнаўства мясцовай школы, жанчыну энергічную і баявую. Яна і 9 яе паплечнікаў, уласна кажучы, і ёсць мясцовая ўлада.

Усё як мае быць: устаноўчыя дакументы, пячатка, разліковы рахунак. Як гаварыў зіцстаршыня Фунт, «аднак, у вас кантора», на што Астап Бендэр адказваў: «Кантора, кантора». Праўда, у адрозненне ад камбінатара, гэта «кантора» не займаецца «рагамі і капытамі». Яна зыходзіць з таго, што 80 працэнтаў жыхароў гарадка Міністэрству абароны не патрэбны...

Сёлетнюю зіму народ гарадка перажыў цяжка. Бывала, тэмпература ў кватэрах апускалася да 1-2° па Цэльсію. Сцены ўпрыгожваліся інеем. Пра гарачую ваду штодзень нават не марылі. З 8 артэзіянскіх свідравін ваду давалі 4, астатнія — давалі гліну і глей. Пры патрабуемай тэмпературы на выхадзе плюс 87 градусаў кацельня давала 47.

13 лютага забаставалі работнікі гандлю. Гарадок шэсць дзён сядзеў без хлеба. Увогуле, тут усе прадукты прывазныя, ваенны гарадок не быў разлічаны на аўтаномнае існаванне. Што ёсць у ваенгандлі, тое ёсць у халадзільніку. Але сістэма ваеннага гандлю ляснула, яна па сутнасці банкрут. Да таго ж, яго падзялілі на філіялы і навесілі на іх салідныя пазыкі. Нейкія прыбыткі ідуць на пагашэнне пазык, на закупку прадуктаў ужо не хапае.

Мясцовых ратуюць міні-рынкі прыватных грамадзян ды аўталаўкі. Без іх, мне казалі на поўным сур'ёзе, памерлі б з голаду. Расшчодрыўся старшыня калгаса імя Гастэлы Нявесценка — яго людзі штодзень возяць малако з фермаў. Смачна, карысна і танна. На 500 рублёў танней у параўнанні з дзяржцаной. Людзі вельмі задаволены.

А ездзіць па прадукты ў блізкі Мінск — гэта можа дазволіць сабе не кожны.

Кажуць, калі вывелі расійскія войскі, прадукты вазілі толькі для ваенных...

У гарадку даволі многа пенсіянераў. Яны, канешне, маюць ільготы. Напрыклад, на лекі. Амбулаторыя выпісвае льготныя рэцэпты, аптэка не можа іх атаварыць — грошай на лекі няма. Пенсіянеры атакуюць медыкаў, медыкам атакаваць некага. Яны людзі паднявольныя, што дасць раён (Мінскі), тым і жывуць.

У сур'ёзных выпадках выклікаюць «хуткую» з Сенніцы. Яна ў прынцыпе можа прыехаць. Бывае, праўда, з Сенніцы звоняць самі: у нас тут выклік з Мачулішчаў, можа б абслужылі? Мясцовая акушэрка, яна дзяжурыць начамі, абслугоўвае. Па штату амбулаторыя не можа мець урачоў вузкай спецыялізацыі. Трэба ехаць ці ў Бараўляны, ці ў Мінск, ці ў Сенніцу. А там — справа вядомая — талоны, чэргі ці зусім проста: «Доктар сёння не прымае».

Амбулаторыя арандуе будынак у домакіраўніцтва гарнізона. За мінулы квартал не паспелі пералічыць 30 мільёнаў арэнднай платы. Домакіраўніцтва падало іск у суд. Адказчыкам выступае амбулаторыя. А гэта значыць, цяжка ўздыхае галоўны ўрач Галіна Даставалава, пеня і штраф. Гэта значыць, што зрэжуць сродкі, напрыклад, на лекі, бо штрафы ў каштарысах не прадугледжаны...

Ад медыцынскіх праблем лёгка пераходзім да вечных. Прабачце, нябожчыкаў у гарадку хаваць няма дзе. Навакольныя могілкі закрыты. Былі выпадкі: вырылі магілу, паехалі па няшчаснага, а мясцовыя тым часам магілу закапалі.

Я ж кажу, месца сюррэалістычнае...

## ...справа саміх тапельцаў

Шчыра кажучы, мне карцела даць матэрыялу загаловак «Падпольны абком дзейнічае». Тым больш, Муза Міхайлаўна — член райкома ПКБ. Але мне ніякай справы да яе палітычных поглядаў няма. У дадзеным выпадку мэтазгодна карыстацца кітайскім выслоўем: няважна, якога колеру кошка, галоўнае, каб лавіла мышэй. А сп. Шалагінавай гэта з бляскам удаецца. Многія члены ўрада, міністры, работнікі Адміністрацыі Прэзідэнта ведаюць яе асабіста. Падазраю, сустрэчы з ёю пакінулі ў іх не самыя лепшыя ўспаміны: Муза Міхайлаўна ўмее ціснуць на псіхіку. І цалкам апраўдана: за ёю — 10 тысяч чалавек.

Калі яна выходзіць на вуліцу, то не можа пакінуць яе 2-3 гадзіны: сам сабою арганізоўваецца прыём па асабістых пытаннях на свежым паветры. Тут, канешне, ёсць элемент «саўковасці» — не можа наш чалавек без таго, каб не перакласці адказнасць на іншага. Праўда, ёсць пытанні, якія асабіста не вырашыць. Напрыклад, праблема беспрацоўя.

У самім гарадку работу знайсці практычна немагчыма. Нейкі час жыхароў Мачулішчаў на работу ў Мінску ўвогуле не бралі. Хаджэнні ў высокія кабінеты далі вынік: на работу цяпер абавязаны браць, а наглядае за гэтым Мінгарвыканком.

Набліжаецца ўрэшце вырашэнне зусім ужо кардынальнай праблемы: пад чыёй юрысдыкцыяй будуць знаходзіцца Мачулішчы? Гэта адразу б зняло мноства пытанняў. Усё ідзе да таго, што гарадок стане тэрыторыяй сталіцы.

Камітэт таксама арганізаваў «разборку» з ваенным гандлем. Фактычна 80 працэнтаў насельніцтва з ім не звязана. Мінабароны марыць ад яго пазбавіцца. Але хто возьме? Знайшлі. Кіраўніцтва Беларускай чыгункі не супраць узяць пад сваё крыло ваенны гандаль.

Кампанію «Трансавіяэкспарт» абавязалі пабудаваць магазін. Праўда, тут выйшла крыху смешна. Магазін атрымаўся вельмі прыгожы, адзіны недахоп — не працуе. Патрабуецца 150 мільярдаў рублёў, каб закупіць прадукты. Грошай, як заўсёды, няма.

Апрача таго, камітэт па самакіраванню дабіўся адводу 3 гектараў зямлі пад могілкі, дагаварыўся з калгасам імя Гастэлы — ён дасць зямлю пад агароды, пачынае будаўніцтва АТС на 1000 нумароў (мімаходзь выявілі 10 чалавек, якія стаялі на чарзе па падробленых дакументах — з чаргі выкінулі), спрабуе вырашыць праблему з будаўніцтвам новых свідравін і інш., і інш.

22 лістапада 1995 года ў Адміністрацыі Прэзідэнта адбылася нарада з удзелам, без перабольшання, большай часткі міністраў РБ якраз па Мачулішчах. Яны сядзелі з адкрытымі ратамі — Муза Міхайлаўна рэзала праўду-матку, можна сказаць, без ценю сумнення.

Праўда, перад гэтым адміністрацыю прыйшлося наведаць 5 разоў, паступова пазнаёміцца са сп. Сініцыным, Ціцянковым і Посахавым. Толькі пасля гэтага воз зварушыўся з месца. Ну, думаю, гэта ў нас традыцыйна ўваходзіць у абавязковыя ўмовы. Гэта звыкла.

А ўвогуле, камітэт па самакіраванню гарадка № 92 уяўляецца прыемным феноменам на даволі шэрым фоне ціхага нашага грамадскага жыцця. Мы ўсё чакаем, калі прыплывуць караблі...

## «Наш гарадок»

У Мачулішчах выходзіць радыёгазета. Называецца — «Наш гарадок». Без прэтэнзій. Робяць Муза Міхайлаўна, члены камітэта Сяргееў (выкладчык філасофіі БДУ) і Паньшына. Па вялікіх святах віншуюць жыхароў, разбіраюць у эфіры заявы грамадзян і даюць адказы. Калі можна так сказаць, зваротная сувязь.

Апошнія перадачы былі 23 лютага і 8 сакавіка. Тады ж арганізавалі «агеньчыкі», адпаведна, для мужчын і жанчын. На Новы год павіншавалі 250 старых, падарылі паштоўкі і па плітцы шакаладу. Многія плакалі не саромеючыся. Ім здавалася — пра іх усе забылі. З «агеньчыка» 8 Сакавіка жанчыны доўга не хацелі разыходзіцца: пелі песні, расказвалі анекдоты і розныя гісторыі.

Грошы на «агеньчыкі» знайшлі вельмі проста. У такіх выпадках Муза Міхайлаўна выбірае 2 камерцыйныя структуры (іх тут 20) і гаворыць: «На гэты раз памяшканне і стол аплачваеце вы». І яны аплачваюць. Больш таго, прыходзяць і просяць: «Дайце нам бабулек, будзем даглядаць». Нічога дзіўнага: у падатковай інспекцыі гэта праходзіць як дабрачыннасць. За гэта — ільгота па падатках.

У сваю чаргу камерсанты разлічваюць на дапамогу камітэта. Скажам, быў час, калі іх «дасталі» рэкеціры. Муза Міхайлаўна арганізавала разам з участковым засаду: узялі траіх «ілбоў», чужых. А ёсць і свае. Іх таксама выявілі і «разбіралі» на камітэце. Хлопцаў напужалі добра, тым больш, што на іх ужо «віселa» па 2,5 года ўмоўна. Прасілі паперы не перадаваць па прыналежнасці.

Увогуле, у крымінальным сэнсе Мачулішчы — далёка не лепшае месца. Самы нявінны выпадак: у доме № 64 перапіла самагоншчыца і перакуліла флягі з бражкай — дом прапах спецыфічным водарам ажно на 3 паверхі. Бражка літаральна капала са столі.

Бывае, праўда, і не так смешна. Не так даўно здарылася забойства, бойкі, крадзяжы, хуліганства сталі рэгулярнымі. Камітэту прыйшлося закрыць два «прытоны» — бар і рэстаран. У рэстаране, кажуць, меў месца стрыптыз: юныя дамы танцавалі на сталах «без нічога», але за долары.

Апошнім часам з «месцаў не вельмі аддаленых» вярнулася 30 маладых людзей. Зараз яны тэрарызуюць школу і Дом афіцэраў. Сёлета заканчваюць школу 5 дзевятых і 4 адзінаццатыя класы. Чым іх заняць, калі большасці паступленне ў ВНУ не свеціць, а работы няма?

Між іншым, на 10 тысяч насельніцтва — адзін участковы, які прымае 3 дні на тыдзень. Камітэт выйшаў на абласное УУС з просьбай стварыць у Мачулішчах апорны пункт міліцыі з поўным штатам. Справядліва: не можаце даць моладзі работу — дайце хоць міліцыянераў. Каб гэтая моладзь не нарабіла памылак, якія потым выправіць нельга...

Вось такім чынам. Цікава, што ўсе члены камітэта за сваю работу не атрымліваюць ні капейкі. Ва ўсіх іх ёсць работа, сем'і, клопаты і, здавалася б, гары яно гарам. Але ніхто пакідаць камітэт не збіраецца. Верагодна, адчуваюць адказнасць. Да таго ж, «никто не даст нам избавленья», апрача нас саміх. Ніхто не будзе займацца праблемамі Мачулішчаў, калі імі не будуць займацца самі жыхары. Між іншым, гэта датычыць усіх населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. Праўда, «передавы вопыт» штосьці не распаўсюджваецца. Разумею: смажаны пеўнік яшчэ не дзеўбануў. Ну, я думаю, гэта хутка здарыцца. Усё да гэтага ідзе.

А мне такая ўлада падабаецца. Нечым нагадвае заходнія дэмакратыі. Дзяржава там адступіла на другі план, насельніцтва займаецца самадзейнасцю і не мае комплексаў на гэты конт. Ды і што ёсць дзяржава? Субстанцыя, прызначаная для таго, каб не дапусціць пекла на зямлі, пра рай размовы няма. Рай — гэта наша з вамі справа. Па-мойму, так.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

***P.S. Спецыяльна для таварышаў з Мінскага райвыканкома: калі ласка, паважаныя, вырашыце пытанне з аплатай працы старшыні камітэта Музы Міхайлаўны Шалагінавай і бухгалтара. У рэшце рэшт, жанчына яна ўжо немаладая, а работы ў яе вельмі многа. Ва ўсякім разе, не менш, чым у любога з вас. Наколькі ведаю, вы не хочаце, каб яна пакінула свой пост.***

ВЫТВОРЧЫЯ ДРАМЫ

# ПАД АДНАГО ГРАБЁНКІНА

**АДНОЙЧЫ вечарам прыйшоў я ў пяціпавярховую «хрушчоўку», што па вуліцы Арлоўскага ў Магілёве, каб наведаць сябра. У пад'ездзе — хоць вока выкалі. Шлях да патрэбнай кватэры мне быў знаёмы, і я знайшоў яе без прыгод. Але гузак мог бы паставіць.**

— Прабач, не папярэдзіў, — сказаў сябар. — Там, пры ўваходзе, кнопка, трэба было націснуць — і святло запаліцца. Праз пяць хвілін аўтаматычна патухне.

І тут я ўспомніў. Аказваецца, гады тры назад я ўжо меў магчымасць пазнаёміцца з такой навінкай. Праўда, завочна. З вуснаў супрацоўніка аблсаўпрофа і дырэктара малога прадпрыемства «Прамень» Уладзіміра Грабёнкіна.

Уласна, гэта так афармілі — МП. А па сутнасці было яно звычайным школьным гуртком пры райпрафсожы. Дзеці, аднак, пад кіраўніцтвам Грабёнкіна заняліся справай, якая зрабіла б гонар даросламу калектыву.

Энергетычны крызіс, які пачаўся са спынення Чарнобыльскай АЭС, потым ускладніўся агульнай неразбярыхай, гуртоўцы сустрэлі шэрагам распрацовак, якія дазвалялі рэгуляваць выкарыстанне электраэнергіі па меры патрэбы. Не сакрэт жа, што наша дамарослае марнатраўства не мае аналагаў ва ўсім свеце. Едзем ноччу на цягніку — абапал чыгункі лес, на «слупах», г. зн. паўстанках, поезд не спыняецца, а магутныя ліхтары з ртутнымі лямпамі ззяюць. Дызельпаязды праходзяць тут позна ўвечары і раніцай, а таварнякам, што імчаць транзітам, асветленыя платформы і наогул да «лямпачкі». Аднак сацыялістычнае грамадства было з шырокай душой — калі не сваё, палі.

Дзевяціпавярховыя дамы — чырвоныя, як іх называюць, касцёлы (такіх у Магілёве нямала) спраектаваны так, што ў пад'езды зусім не пранікае натуральнае святло. Прадугледжвалася (як спецыяльна), каб лямпачкі гарэлі нават сярод белага дня. Па тры на кожнай пляцоўцы. Дзяржава ж была багатая, а пра тое, што яна развaліцца, і ўзятыя паасобку рэспублікі стануць жабракамі, здагадваўся хіба што Настрадамус.

Карацей, прыкладаў, калі мы ацяпляем неба і асвятляем сонца, можна прыводзіць шмат. Гэта пры тым, што літаральна стогнем ад недахвату энергарэсурсаў.

Здавалася б, рацыянальнае выкарыстанне энерганосьбітаў — вось той канёк, які выцягне хоць адно кола эканомікі з багны крызісу. Эканомія той жа электраэнергіі «па Грабёнкіну» магла даць прыблізна 30 працэнтаў току — столькі, колькі рэспубліка вымушана купляць за мяжой.

Аднак дзе там.

Каля сотні дамоў «Прамень» аснасціў аўтаматычнымі рэгулятарамі. Пра гэта расказваў тады Грабёнкін з сумам.

Па-першае, камунальнікі згаджаюцца неахвотна, маўляў, няма грошай, хапала б на зарплату дворнікам. Хаця праз два-тры гады аўтаматыка сябе акупіла б.

Па-другое, дзікунства, дакладней, вандалізм саміх жыхароў. Выдзіраюць абсталяванне з трыбухамі, бо яго можна прадаць.

Па-трэцяе, на творчасць не застаецца часу, таму што пераважна даводзіцца працаваць забеспячэнцам: усялякую «рэлюшку» трэба недзе дастаць.

Па-чацвёртае, да распрацовак «Промня» не праяўляюць цікавасці прамысловыя прадпрыемствы і ўлады, бо, як вядома, да прадпрымальнікаў у нас адносіны насцярожаныя, без розніцы, якім відам бізнесу займаешся — гандлёвымі махінацыямі ці вытворчасцю. Усіх, калі можна так сказаць, пад аднаго Грабёнкіна.

Зрэшты, адзін сур'ёзны заказчык усё ж знайшоўся — Магілёўская дыстанцыя пуці. Прывабіла перспектыва траціць электраэнергіі ў 6 разоў менш, калі, дапусцім, уключыць асвятленне прыпыначных пунктаў за паўгадзіны да прыбыцця поезда. Гэта толькі на ўчастку Магілёў—Орша.

Аднак такі заказ (ён, дарэчы, быў выкананы) аказаўся выключным.

Пра ўсе гэтыя праблемы я тады, кіруючыся прафесіянальным абавязкам, паведаміў праз друк грамадскасці. Уяўляеце захапленне, з якім ваш пакорны слуга сутыкнуўся ў жыцці з рэгулюемай «нічыйнай» электрыкай?

Пазваніў Уладзіміру Дзмітрыевічу дамоў (было гэта ў суботу) і, як цяля, папусціў сліну. Віншую, кажу, і ўсё такое, можа, ёсць яшчэ штонебудзь навенькае?

— Ёсць, — адказаў Грабёнкін. — З работы прагналі. А так усё па-старому. Працую з дзецьмі ў тым жа гуртку, паціху працягваем справу. З тымі ж праблемамі.

Не схільны звязваць звальненне дамарослага Кулібіна з прафсаюзаў з яго «бізнесам». Проста скарачалі апарат, у тым ліку і нашых абаронцаў. А тут яшчэ сумяшчэнне, незнарок рассакрэчанае прэсай. І трапіў мой Грабёнкін у кадравую мясарубку. Ніхто нават не пацікавіўся, які такі «навар» можна рабіць з дзецьмі, займаючыся прыкладной фізікай. А Грабёнкін даваў ім магчымасць зарабляць хаця б на цукеркі. Згадзіцеся, гэта ўсё ж лепш, чым мыць лімузіны «новых нашых».

Здзіўляе ў гэтай гісторыі і іншае. Заскарузлае непрыманне новага. Ды такіх бы грабёнкіных на руках насіць трэба. Не гавару, каб яму далі лабараторыю, штат супрацоўнікаў, — розум, увогуле, у нас не цэніцца, аб чым сведчыць афіцыйная навука, якая сама ў гаротным становішчы.

Аднак не ціснулі хаця б маральна. Што я і спрабую кампенсаваць. Хоць бы часткова.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

*НАЦЫЯНАЛЬНАЕ КІНО*

# АКАФІСТ: МАЛІТВА ЦІ СКАРГА?

**Апошнія месяцы мінулага года праходзілі для многіх прадстаўнікоў беларускай творчай інтэлігенцыі пад знакам 65-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча. У друку з'явіліся артыкулы і ўспаміны, па тэлебачанні і радыё трансліраваліся перадачы, прысвечаныя славутаму юбіляру. Не абмінулі ўвагай асобу Караткевіча і кінамайстры — на творчым аб'яднанні «Летапіс» кінастудыі «Беларусьфільм» з'явілася дакументальная стужка «Акафіст Уладзіміру». Яе прэм'ера адбылася ў канцы мінулага месяца.**

Трэба адзначыць, што кінадакументалісты ўжо звярталіся да лёсу і творчасці Уладзіміра Караткевіча. Поўнаметражны фільм «Быў. Ёсць. Буду.», які не аднойчы паказваўся па тэлебачанні, зроблены ў жанры партрэта. Глядач знаёміцца з Пісьменнікам, Грамадзянінам і Чалавекам, з яго светаўспрыманнем і недахопамі, з яго верай і захапленнямі... Здавалася — сказана ўжо ўсё. Што яшчэ можна дабавіць да завершанага партрэта, тым больш да партрэта чалавека, які ўжо адышоў у іншы свет і не можа сваім жыццём дадаць нейкія новыя штрыхі? Здаецца, нічога.

Але, як аказалася, яшчэ можна. Засталася — малітва. Аўтар сцэнарыя Рыгор Барадулін і рэжысёр Сяргей Лук'янчыкаў упэўнены ў тым, што здолелі сказаць новае, і сваёй работай стараюцца пераканаць у гэтым гледача. «Акафіст Уладзіміру»... Па логіцы, гэтыя словы не павінны стаяць побач, тым больш ствараць назву фільма, няхай сабе і дакументальнага, няхай сабе і кароткаметражнага. Акафіст у хрысціянскай набожнай літаратуры значыцца як асобны від малітоўнахвалебных песень у гонар Хрыста, Багародзіцы і святых. «Акафіст Уладзіміру»... Не святому Уладзіміру, не таму, што хрысціў калісьці Русь, а нашаму, сучаснаму, таленавітаму, грэшнаму... Можа, гэта блюзнерства? Не. Бо для многіх рупліўцаў Адраджэння ён — святы. Бо без яго ім сягоння вельмі цяжка. Бо аб ім помняць і за яго (а хто ведае — мо і яму?) моляцца...

Фільм не пра Караткевіча. Гэта хутчэй асэнсаванне, дакладней, пераасэнсаванне таго, што мы страцілі, калі ён ад нас пайшоў. Гэта хутчэй дзіўная споведзь аўтараў і герояў стужкі, якім сёння вельмі дрэнна, якія пасля ўзнёслага адчування абнаўлення і адраджэння зноў на мяжы роспачы, якія ва ўспаміне пра Караткевіча, пра яго адданасць і апантанасць шукаюць ад гэтай роспачы паратунку. Чаму споведзь — дзіўная? Бо спавядаюцца і моляцца героі, не вымаўляючы ні слова.

Героі — не выдумка творчай фантазіі аўтараў (фільм усё-такі дакументальны). Гэта людзі, якія былі блізкія да Караткевіча ў апошнія гады. Яны адчулі страту больш за ўсіх. Таму сваімі вачамі і сваім маўчаннем яны гавораць значна больш, чым маглі б сказаць самымі пранікнёнымі словамі...

...Дзве бліскучыя паласы чыгункі-вузкакалейкі. Яны бягуць-спяшаюцца паміж зараснікаў бур'яну невядома адкуль, невядома куды. Па гэтай дарозе едзе паравоз-«кукушка». На мосціку — Рыгор Барадулін. Ён глядзіць на рэйкі і бур'ян, што застаюцца ззаду, і нібы збіраецца сысці прама на хаду. Але не сыходзіць. Мо таму, што ў гэтай пясчана-бур'яновай пустцы ён не ведае, куды ісці? Ён зусім адзін. Няма чалавека, які б падказаў. Няма Караткевіча...

Выстава кніг Васіля Быкава. Камера павольна перабірае іх назвы. «Дажыць да світання», «Знак бяды», «Сцюжа»... І раптам — у пустых нямых пакоях, дзе побач толькі кнігі з прароча-сімвалічнымі назвамі — сам Быкаў. Адзінокі, самотны, нейкі значна пастарэлы. Ён адзін са сваёй «Сцюжай». Няма таго, хто б дапамог, прынёс цяпло і веру. Няма Караткевіча...

Стары парк, засмужаны позняй, пажаўцелай ужо восенню. Дом, дзе жыў і працаваў Якуб Колас. Ніводнай жывой душы. Толькі нейкі дзівак расклаў невялікае цяпельца на залатым дыване пад маўклівымі старымі дрэвамі. Але ён не грэецца ля яго. Агонь ён запаліў для таго, каб успомніць. І, варушачы палаючыя галінкі, ён варушыць свае ўспаміны. Маўклівы, задуменны, адзінокі... Гэта мастак Пётр Драчоў, сябар Караткевіча, часты спадарожнік яго вандровак. Ён не падкіне ў касцёр добрае бярэмя, каб быў не кволы агеньчык, а жывы, жвавы агонь, не прысядзе да яго, каб працягнуць змерзлыя рукі, а пасля спячы ў прысаку бульбы і застацца вось так сядзець да самага змяркання. Ён спыніўся толькі на хвіліну і, як толькі дагарыць апошняя галінка, пойдзе... Бо няма таго, з кім можна было б сядзець ля гэтага вогнішча да раніцы, захапляцца цішынёй і прыгажосцю старога парка, напаўголасу спяваць самотныя і светлыя, як сама восень, народныя песні. Няма Караткевіча...

Кватэра ў старым «пісьменніцкім» доме, што на вуліцы Маркса. За шклом кніжнай шафы — сямейныя фотаздымкі, на пісьмовым стале — чыстыя аркушы і ручка, на сцяне — карціна: адзінокая постаць на фоне начной шырокай ракі. І невялікая кватэра здаецца пустой і вялізнай. І яе гаспадыня — Наталля Кучкоўская здаецца ў гэтых сценах адзінокай і ўсімі пакінутай. Бо няма гаспадара, няма брата, які пісаў за гэтым сталом, пераастаўляў кнігі на гэтых паліцах, курыў, седзячы на гэтай канапе. Няма Караткевіча...

На працягу ўсяго фільма за кадрам гучыць самотная кранаючая музыка і шчырыя прыгожыя словы. Пасля ўсяго, што было да гэтага сказана і напісана пра Караткевіча, яны б здаваліся не новымі, нават крыху банальна-патэтычнымі, калі б ... Калі б не гэтыя твары на экране, калі б не іх маўчанне, не іх адзінота. «Быў. Ёсць. Будзеш. Будзеш. Будзеш.» Тут не патэтыка. Тут абяцанне, хай сабе і не такое ўпэўненае, як раней; хай сабе і не ад імя ўсіх, але ўсё ж — абяцанне. А можа — для саміх сябе — сцвярджэнне. А можа — малітва...

Фільм зроблены прачула і пранікнёна. Насцярожвае толькі адно. Ствараецца ўражанне, што, калі ўсіх яго герояў у іх роспачы і адзіноце сабраць разам, яны не стануць ад гэтага менш самотнымі і адзінокімі. Можа, у гэтым і ёсць сёння самая страшная бяда нашай інтэлігенцыі? Пачатак і фінал фільма прымушаюць задумацца. Першы кадр: на паверх, дзе знаходзіцца кватэра Караткевіча, нясуць труну. «Гэта — наша ўзыходжанне да Караткевіча»,— тлумачыў на прэзентацыі рэжысёр. Але нашто — труна? Што ў ёй — нашы сённяшнія роспач і адчай? Нашто несці іх Караткевічу, усё жыццё якога — прыклад, як з гэтым адчаем змагацца і як гэтай роспачы не паддавацца? Каб паскардзіцца, як нам без яго цяжка сёння, як мы не можам знайсці выйсця, у якой мы дэпрэсіі? І што значыць павалены крыж (апошні кадр фільма) сярод бур'яновай пусткі, да якога ўрэшце прыводзяць дзве бліскучыя паласы рэек? Можа, гэта месца, дзе Караткевіч у ліпені 84-га быў на сваім апошнім прывале, адкуль яго забралі ў Мінск і куды ён больш не вярнуўся ніколі? І Барадулін проста здзяйсняў паломніцтва да гэтага месца? Добра, калі так. Але ўся танальнасць фільма, і асабліва гэта труна ў першым кадры, прыводзяць да думкі, што павалены крыж — знак разбураных надзей і спадзяванняў і без Караткевіча яго ніхто не здолее падняць...

У такім выпадку, ці захоча пачуць гэты акафіст святы, якому ён адрасаваны?

**Алена ЛЯЎКОВІЧ.**

# Памяці Максіма Танка

**На пасяджэнні камісіі Саюза беларускіх пісьменнікаў па творчай спадчыне Максіма Танка адбылася зацікаўленая размова пра годнае ўшанаванне памяці народнага паэта Беларусі. Асновай для разваг паслужылі два дакументы: «Завяшчанне» Яўгена Іванавіча і Указ Прэзідэнта Беларусі № 414 ад 10 кастрычніка 1995 г. аб увекавечанні памяці песняра Нарачы.**

Дырэктар Інстытута літаратуры імя Я. Купалы АНБ акадэмік В. Каваленка праінфармаваў сяброў камісіі, што робіцца для выканання прэзідэнцкага загаду аб выданні Поўнага збору твораў Максіма Танка. Аўтар гэтых радкоў расказаў, як ідзе праца над укладаннем рускага двухтомніка паэта. Я. Брыль прапанаваў падрыхтаваць багата ілюстраваную кнігу пра Максіма Танка, куды б увайшлі не толькі ўспаміны пра песняра, але і лепшыя літаратурна-крытычныя артыкулы, прысвечаныя яму мастацкія творы. Н. Гілевіч выказаў меркаванне пра неабходнасць прысвоіць імя Максіма Танка Сваткаўскай школе Мядзельскага раёна, з якой паэт меў лучнасць на працягу ўсяго свайго жыцця. І. Шамякін падтрымаў выказаную ў «Завяшчанні» просьбу паэта не ставіць на яго магіле пампезны помнік; трэба зрабіць сціплае надмагілле, але ў той жа час упарадкаваць усе Слабадскія могілкі, прывесці іх да ладу, зрабіць агульным помнікам і паэту, і ягоным родзічам, і ўсім яго землякам. С. Законнікаў паабяцаў зрабіць дзевяты нумар «Полымя» традыцыйна танкаўскім і публікаваць у ім яшчэ не друкаваныя творы Максіма Танка, а таксама цікавыя матэрыялы пра самога пісьменніка. Выступленне В. Зуёнка, як і сына паэта М. Я. Скурко, было прадвызначана клопатам пра належнае захаванне і навуковае выкарыстанне рукапіснай спадчыны песняра. А. Бутэвіч засяродзіў увагу на неабходнасці ўліку, навуковага апісання і захавання асабістай бібліятэкі пісьменніка...

Усё гэта — турботы сённяшняга дня. Аднак сябры камісіі зазіралі і ў дзень заўтрашні. А там, на даляглядзе, выразна бачыцца неабходнасць мемарыяльнага музея класіка беларускай літаратуры ў яго роднай Пількаўшчыне. А ці такая ўжо неажыццявімая перспектыва — арганізаваць літаратурны музей на самым беразе Нарачы, у памяшканні былых суседскіх хат-дач М. Танка, М. Лынькова і А. Куляшова? Мядзельскія раённыя ўлады і культурная грамадскасць раёна летась запачаткавалі спецыяльныя танкаўскія фэсты — у памяць апошняга, развітальнага (кастрычнік 1994 года) візіту песняра да сваіх землякоў. А чаму б не прыўрочыць да гэтых фэстаў і штогоднія рэспубліканскія (ці нават міжнародныя) Танкаўскія навуковыя чытанні ў тым жа Мядзелі? Надзвычай сціплы чалавек, Максім Танк, як ужо згадвалася, прасіў пра сціплае надмагілле («Прасіў бы не ставіць і помніка. А калі гэта неабходна, можна будзе напісаць на бакавых гранях помніка маці, хто ляжыць побач з ёю».) Гэтае жаданне паэта несумненна трэба ўважыць. Але ў той жа час нельга не ўважыць і жаданне землякоў паэта бачыць скульптурную выяву песняра Нарачы над самой Нараччу, у яго родным Мядзелі. А хіба ўдзячныя чытачы, і не толькі беларусы, не захочуць сустрэцца з бронзавым Максімам Танкам у адным са сквераў ці на адной з плошчаў беларускай сталіцы?! Праўда, паўстае пытанне: дзе ў наш час узяць грошы на ўсё гэта? Але ж, думаецца, было б толькі жаданне, была б толькі сапраўдная любоў да песняра, да роднай культуры. Знайшлі ж аршанцы і віцябляне сродкі, каб увасобіць у бронзе і камені свайго славутага земляка Уладзіміра Караткевіча...

Ушанаванне памяці нацыянальнага песняра — клопат і гонар усёй нацыі. Таму Саюз беларускіх пісьменнікаў і камісія па творчай спадчыне Максіма Танка з удзячнасцю ўспрыме ўсе прапановы і пажаданні грамадскасці, каб з дапамогаю выканаўчых уладаў і ўсіх зацікаўленых асоб нават у наш складаны час увасобіць іх у жыццё.

**Вячаслаў РАГОЙША,**
**старшыня камісіі СПБ па творчай спадчыне Максіма Танка.**

# Ушанавалі памяць нашых землякоў у Празе

**Група творчай інтэлігенцыі Беларусі наведала Прагу. Паспрыяць адкрыццю помніка вялікаму беларускаму асветніку Францішку Скарыне, які менавіта тут друкаваў свае першыя кнігі, а таксама ўшанаваць памяць нашых землякоў, якія тут жылі і вучыліся, — вось асноўная задача гэтай паездкі, якую фінансаваў Фонд Сораса.**

Абедзве гэтыя задачы ўдалося выканаць. На Альшанскіх могілках былі ўскладзены кветкі на магілы Пётры Крэчэўскага, Васіля Захаркі і ягонай жонкі, Міхася Забэйды-Суміцкага, а таксама савецкіх воінаў, што вызвалялі Прагу. Нядаўна прыйшла вестка з Прагі, што пытанне аб помніку Скарыне вырашана чэшскімі ўладамі станоўча.



А яшчэ ў час паездкі былі праведзены сустрэчы ў Чэшскім камітэце жанчын, у Педагагічнай акадэміі, у славянскай бібліятэцы, дзе адбыўся навуковы семінар, прысвечаны дзейнасці Францішка Скарыны, на якім выступалі Францішка Сокалава, Васіль Быкаў, Вітаўт Кіпель, Вольга Іпатава, Радзім Гарэцкі, Вацлаў Жыдліцкі. На апошняй прысутнічалі і работнікі Пасольства Беларусі ў Чэхіі на чале з І.Вайцянковым, які, дарэчы, разам з прэзідэнтам сябрыны «Беларусь—Чэхія» Ірынай Шаблоўскай адкрыў урачыстую сустрэчу з грамадскасцю краіны, якая адбылася ў Цэнтры культуры пры расійскай амбасадзе ў Чэхіі.

**Ягор ФЯДЗЮШЫН.**

***На здымку:*** *падчас сустрэчы ў расійскім Цэнтры культуры.*



**Ёсць паэты, кожны вершаваны радок якіх вынашаны ў сэрцы не адзін год. Яны складаліся жыццём, імкненнем стала асэнсаваць усе яго грані, сказаць толькі сваё, адметнае.**

**Да іх належыць і Рычард Бялечыц. Філолаг па адукацыі, ужо больш за дваццаць гадоў ён настаўнічае. Зараз — дырэктар Дудкоўскай базавай школы Шчучынскага раёна.**

**Друкаваўся ў «Маладосці», «Полымі», «ЛіМе», калектыўных паэтычных зборніках. У пачатку года выдаў кнігу вершаў «Праталінка».**

## Рычард БЯЛЕЧЫЦ

### Сустрэча

Лясы.. Узгоркі...
І старанна
Здавён ад гневу Бог бярог
Паміж сталіцамі
Ацмяны —
Супынак княжацкіх трывог.

Я быў не часта на каленях,
Глядзеў у твар святой вадзе.
Ажно княгіняю Аленай
Насустрач Памяць мне ідзе.

Пагляну — слёз не утрымаю,
Уранні выб'ецца мароз:
Яна, праўдзівая да слёз, —
Безабаронная такая.

□□□

Далёкая і дарагая
Мая радзіма.
Нездарма
Цябе матуля зберагае,
Пакуль трымаецца сама.

Там бульба ледзь не зазімуе,
Мяне чакаючы ў зямлі.
І яблыкі ў траву сівую
Ўпадуць.
Зняверацца калі.

Сабака дрэмле.
Ён за памяць
Маю старэйшы стаў даўно.
Яго лістота засыпае
З маёю сцежкай заадно.

Згарыць прад ночаю бярозка,
Я, валацуга, не прыйду.
Зноў панясе матуля ў вёску
Сваю бяду,
Маю бяду.

□□□

На левую далонь паглядзі,
Маўчы і не дыхай.
А слухай,
Як пад векавы маладзік
Спадае знаёмая скруха.

І лечыць цыганскі абрад
Душу на краі Беларусі.
І слову бацькоўскаму рад
Навекі вякоў
Застаюся.

□□□

Слоў не відно.
Ды з забыцця,
Як гусі ўвесну, апаўночы
Яны ў наш дзень ляцяць.
Глядзі, глядзі мне толькі ў вочы.

Прыб'е паводкаю святла
Да берага вачэй павекі.
Ты тут была, ты тут жыла,
Тут словаў водар свежа-церпкі.

Ты, несуцешная, плывеш
У задуменныя вышыні.
Давай, давай спазнаем верш
І кропкай часу не супынім.

### Жаданне

Быццам праз шкло запацелае
Дня не разгледжу таго —
Шапачка белая-белая
Між асляпляльных снягоў.
Покуль адыдзе душа, чакаў.
Верыў душы дарма:
Белая-белая шапачка,
Зводніца злая зіма.
Па бездарожжы, па холадзе
З'еду. Балюча няхай.
Дзесь па заснежаным горадзе
Блудзіць жаданне кахаць.

*СПАДЧЫНА*

## Нашчадкі Пушкіна на рудабельскай зямлі

**І сёння многія са старажылаў Акцябршчыны, асабліва настаўнікаў, добра памятаюць Вольгу Яўгенаўну Кліменка як настаўніцу. Ды толькі мала хто ведаў, што яна прапраўнучка Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. А нагадала надоечы аб гэтым раённая газета «Чырвоны Кастрычнік», змясціўшы цікавы матэрыял аб нашчадках вялікага паэта на рудабельскай зямлі. Праўда, у свой час Сяргей Грахоўскі ў нарысе «Сустрэча з Лукамор'ем» расказваў пра гэтых славутых людзей, у прыватнасці пра сустрэчу з праўнукам Рыгорам Рыгоравічам Пушкіным. А адбылася яна пры наведванні Сяргеем Іванавічам Міхайлаўскага ў час святкавання 175-й гадавіны з дня нараджэння А. С. Пушкіна.**

**Праўнук і расказаў тады беларускаму пісьменніку пра многіх са сваіх знакамітых сваякоў, у тым ліку і пра Вольгу Кліменка.**

Як высветлілася, яна нарадзілася ў 1911 годзе ў Бабруйску. Яе маці, Марыя Паўлаўна Варанцова-Вельямінава (у замужжы Кліменка), была старэйшай дачкой унучкі Аляксандра Сяргеевіча Наталлі Аляксандраўны, якая да 1912 года жыла ў маёнтку Вавулічы, што знаходзіўся ў дзесяці кіламетрах ад Бабруйска. Бацька Яўген Іпалітавіч, юрыст па адукацыі, займаў у Бабруйску пасаду суддзі. З 1910 года — ён мясцовы павятовы прадвадзіцель дваранства.

Пасля заканчэння школы ў Бабруйску Вольга Яўгенаўна закончыла кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы пачатковых класаў пры Рагачоўскім педагагічным тэхнікуме. Першыя тры гады яна працавала ў вёсцы Ратміравічы і столькі ж часу — у вёсках Новая Дуброва і Воземля цяперашняга Акцябрскага раёна.

Адну зіму ў сястры жыў у Ратміравічах і яе брат Сяргей. Акцябрычане памятаюць настаўніцу Вольгу Кліменка як чуйную і спагадлівую жанчыну. Напрыклад, жыхарка вёскі Новая Дуброва Аляксандра Іванаўна Яфрэмава з самым цёплым успамінам нядаўна выступіла пра яе ў мясцовай раённай газеце. У прыватнасці, расказала аб тым, як яе дзед Васіль Калянкевіч шчырым словам заўсёды ўспамінаў гэту цудоўную «вучыцельку». А ён жа добра яе ведаў: Вольга Яўгенаўна кватаравала ў Калянкевіча.

Далейшы лёс яе такі. У 1935 годзе В. Кліменка паехала пагасціць да сваёй сястры Ірыны ў Архангельск і засталася там назаўсёды.

**Юрась ПАЛЯСОЎШЧЫК.**

Акцябрскі раён.

*МАЛЮНАК З НАТУРЫ*

## БУДЗЁННЫ РЭЙС,

### або Некалькі хвілін з жыцця мінскай аўтастанцыі «Аўтазавод»

...На чарзе, якая да гэтага стаяла амаль нерухома і маўкліва, нібы прабегла хваля. Людзі раптам заварушыліся, загаманілі, пахапалі сумкі, мяхі, падаліся наперад. Чарга імгненна ператварылася ў натоўп. Сярод усчатага гоману пачулася:

— Нарэшце...

— Гляньце, зноў маладыя наперад лезуць, ніякага сумлення ў іх няма...

— Цётка, не крычы, усе паедзем...

І да болю знаёмае:

— Вы тут не стаялі.

«На першую пляцоўку пададзены аўтобус па маршруту... Час адпраўлення...»

— Хлапец, не паспееш?! Бачыш, жанчына з дзіцем...

— Пасажыр, чаму не адзначылі ў касе пасведчанне ўдзельніка вайны?

— Прабачце, не паспеў...

— Што значыць «не паспеў»? Трэба хуценька схадзіць і адзначыць!

— Чаго стаў, стары, не затрымлівай!

— Таварыш кантралёр, гады ўжо не тыя, каб бегаць. Я ўжо так зайду...

— Як гэта — так?! А я тут навошта?

— Тваю ... людзей колькі, а яна лясы точыць! Пусці старога, няхай едзе!

— А вы на мяне не крычыце, разумнік гэтакі...

«...працягваецца пасадка ў аўтобус па маршруту...»

— Бабка, табе дома на печы трэба сядзець, а ты з такімі клункамі ездзіш...

— Давай далей, праходзь! Сярэдзіна салона свабодная, а яны пасталі. Эх, штурханём, браток!..

— Вы сядзіце, дык патрымайце, калі ласка, кветкі, бо стоячы я іх наўрад ці давязу...

— І куды яны лезуць, аўтобус ужо поўны, яблыку няма дзе ўпасці?! Людзей удвая больш, чым месцаў у ім...

— Дык кожны ж ехаць хоча. А каб вы на вуліцы засталіся?

— Пасуньцеся!!!

— Ай! Здавілі, аж дыхаць заняло!

— Жанчына, давайце ваша дзіця нам на калені. І сумку пад сядзенне стаўце — усё ж лягчэй будзе.

— Дзякуй вялікі, зусім дзяўчо стамілася!

— Чаму не едзем? Час ужо...

«Заканчваецца пасадка ў аўтобус...»

— Вось і вадзіцель!

— Хутчэй бы ўжо... Яшчэ ж колькі ехаць.

Кантралёр абедзвюма рукамі «дапамагае» трапіць у салон апошняму шчасліўцу, вадзіцель з трэцяй спробы зачыняе дзверы і машына, рухавік якой натужліва раве, пачынае набіраць хуткасць. Людзей ад сутаргавых рыўкоў хістае і трасе, нібы селядцоў. Праз некалькі імгненняў аўтобус знікае за вуглом будынка аўтастанцыі, адправіўшыся ў звычайны рэйс прыгараднага прызначэння...

**Неабходнае пасляслоўе**. З уласнага вопыту ведаю, наколькі балюча ўспрымаюць любыя папрокі ў свой адрас работнікі транспарту: у свой час (калі вучыўся ва універсітэце) больш як пяць гадоў я кожны дзень у шэсць гадзін раніцы бег на аўтобус на Мінск, а потым, адвучыўшыся і адпрацаваўшы, ужо ў прыцемках вяртаўся назад. Таму часу, каб зведаць усе «прывабнасці» падарожжа ў прыгарадным аўтобусе, было, як кажуць, дастаткова. Наведваючыся зараз зрэдку дамоў, заўважыў, што з таго моманту ў бок паляпшэння нічога не змянілася. Яно, вядома, зразумела: зношанасць парка, адсутнасць кадраў і яшчэ шэраг аб'ектыўных прычын. Але, думаецца, прычына не толькі ў гэтым.

Калі бачыш, як людзі літаральна душацца пры пасадцы ў адзін аўтобус, а побач у рэйс накіроўваецца дадатковы (амаль пусты) па спадарожнаму маршруту, але цябе туды з тваім білетам не бяруць, асабіста я не хачу і не магу зразумець гэтага. Ці калі людзі ў чаканні стаяць на пляцоўцы пад пранізлівым ветрам або пралíўным дажджом, а літаральна ў некалькіх метрах ад іх стаіць машына, вадзіцель якой з кабіны глядзіць на чаргу, але не кранецца з месца да аб'яўлення пасадкі? Я ўжо не кажу пра тое, як у самы час «пік» на паўгадзіны можа знікнуць касір, пакінуўшы шыльдачку «Тэхналагічны перапынак 10 хвілін»...

Думаецца, уся бяда ў тым, што нікому нічога не трэба. Навошта, калі аднойчы расклад руху ўжо быў складзены? А яшчэ — у чэрстваcці і абыякавасці да людзей. Вадзіцелю сапраўды няма падстаў для хвалявання — ён заўсёды ў цяпле і месца яго ніхто не зойме. А пасажыры... Ведаеце, ёсць такі выраз: «Праблемы неграў шэрыфа не турбуюць». Так і жывём: не транспарт для людзей, а наадварот. Ці мо хто не згодны?..

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ЗДАРОЎЕ*

## ГАЮЧЫ АВЁС

Для лячэння **скурных хвароб** (лішай, экзема, дыятэз у дзяцей) робяць прымочкі настоем аўсу ў суадносінах 1:10.

Для дадатковага заспакаяльнага эфекту пры **дэрматыце і экземе** замежныя спецыялісты раяць дабаўляць у ванны пакаёвай тэмпературы 2 кубачкі здробленых аўсяных круп (парашок) і нават карыстацца аўсянымі крупамі замест мыла. Для гэтага загарніце парашок у насоўку і завяжыце яе, намачыце ў вадзе, адцісніце і карыстайцеся як звычайнай мачалкай.

Для лячэння **скурных хвароб** і нават **залатухі** выкарыстоўваюцца праpослае зерне аўса. Зерне памыць і насыпаць тонкім слоем у плоскую пасудзіну, на дно якой папярэдне пасцяліць добра намочаную ў цёплай вадзе і складзеную ўдвая анучку. Зверху на зерне пакласці такую ж анучку і паставіць у цёплае месца. Зерне, у залежнасці ад тэмпературы, прарастае праз 12—24 гадзіны. Авёс прапускаюць праз мясарубку. Цестападобнай масай у марлевых мяшочках абкладваюць хворыя ўчасткі скуры.

Ванна, якая асвяжае і разгладжвае скуру **(касметычны сродак для сухой скуры)**. Запоўніць ванну вадой, потым развесці ў ёй 50 мл хвойнага экстракту і 0,5 кг бульбянога крухмалу ці замест яго 1 л густога адвару аўсяных камякоў. Прымаць ванну пры тэмпературы вады 35—37 градусаў на працягу 10 хвілін, потым у вільготную скуру ўцерці пажыўны крэм. Такую ванну можна прымаць пры арагавенні эпідэрмісу (паверхневага слоя скуры) і пры гусінай скуры.

Маска з соку кавуна і аўсянай мукі **(для сухой скуры).** 2 ст. лыжкі соку кавуна змяшаць з 1 чайнай лыжкай аўсянай мукі, дабавіць 3-4 кроплі масла святаянніку (20 г свежых кветак і здробленага лісця святаянніку заліваюць 100 мл алею і настойваюць 3 тыдні). Лепш такую маску рабіць на ноч, паколькі сонца і святаяннік могуць даць нежаданую пігментацыю.

Маска з яечнага бялка, лімоннага соку і аўсянага вотруб'я **(для тлустай скуры).** Узбіць яечны бялок, потым паступова дабавіць 1 чайную лыжку лімоннага соку, 1 чайную лыжку перацёртай у пудру лімоннай цэдры, а потым яшчэ 2 чайныя лыжкі аўсянага вотруб'я. Усё добра перамяшаць і нанесці атрыманую кашку на твар. Праз 10 хвілін маску размякчыць цёплым кампрэсам, асцярожна зняць і абмыць твар халоднай вадой. Прымяняць пры порыстай, маршчыністай скуры.

Бялкова-мядова-аўсяная маска **(для тлустай скуры).** 2 яечныя няўзбітыя бялкі, 30 г мёду, 1/2 чайнай лыжкі персікавага (міндальнага) масла добра перамяшаць да атрымання аднароднай масы. Потым дабавіць 2 ст. лыжкі аўсянай мукі і зноў перамяшаць. Атрыманую масу нанесці на твар. Змыць праз 20 хвілін спачатку цёплым, а потым халодным кампрэсам. Маска аказвае танізуючае ўздзеянне на скуру.

Маска з кіслага малака і аўсянай мукі **(для сухой скуры).** Змяшаць 1/4 шклянкі кіслага малака і 1 ст. лыжку аўсянай мукі. Атрыманую пасту змясціць паміж двума слаямі марлі і налажыць на твар на 15—20 хвілін. Выкарыстоўваецца такая маска пры вывядзенні вяснушак і пігментных плямаў на сухой і нармальнай скуры.

Маска з соку свежых памідораў і талакна-мукі папярэдне запаранага аўса **(для сухой скуры)**. 2 ст. лыжкі свежага таматнага соку змяшаць з 1-2 ст. лыжкамі талакна ці вотруб'я. Атрыманую кашку нанесці на твар і пакінуць на 20 хвілін. Змыць халоднай вадой.

Маска з талакна, смятаны, хвашчу **(для тлустай скуры).** 2 ст. лыжкі смятаны змяшаць з дзвюма лыжкамі аўсянага талакна, дабавіць 2 чайныя лыжкі адвару хвашчу палявога. Зрабіць маску на 15 — 20 хвілін, змыць адварам ці падкісленай вадой. Адвар хвашчу гатуецца так: адну сталовую лыжку травы хвашчу заліць пяццю лыжкамі кіпеню і настоіць 20 хвілін, потым працадзіць.

Маска з талакна і збору траў **(для тлустай скуры)**. 3 ст. лыжкі аўсянага талакна, па 1 чайнай лыжцы пялёсткаў наготкаў, шалфею і пялёсткаў васілька. Збор траў заліць 200 мл кіпеню, закрыць, настоіць. Яшчэ цёплы адвар працадзіць і ўліць яго ў талакно (3 лыжкі). Зрабіць маску на 15 — 20 хвілін. Астатнім адварам змыць і працерці скуру твару. Абмыць твар халоднай вадой.

Маска з талакна і соку кавуна **(для тлустай скуры).** Аўсянае талакно (2 ст. лыжкі) змяшаць з лыжкай соку кавуна і зрабіць маску на 15—20 хвілін. Змываць кантрастнай вадой, то цёплай, то халоднай.

**Падрыхтаваў Павел СІДАРАЎ.**
**«АиФ» «Здоровье».**

*АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ*

## У ПОЛІ БЯРОЗА

***Уважліва штораз чытаю і перачытваю некаторыя матэрыялы газеты, з нецярплівасцю чакаю той ці іншай рубрыкі, адказы на пастаўленыя нашым сучасным жыццём нялёгкія пытанні і г. д. Найпрыемнейшай для мяне ў апошні час стала рубрыка «Анталогія беларускай песні».***

***Але вось у нумары за 10 лютага г. г. пасля цудоўных слоў пра песню і каханне, пасля прыгожага фотаздымка шчаслівай сям'і Дрынеўскіх прачытаў, што песня «Во полі бэрэза» — песня палескіх беларусаў. З гэтай высновай аніяк не магу пагадзіцца, бо гэтая ж песня спявалася раней, у пару маёй маладосці — у 50—60-я гады, і, напэўна, спяваецца яшчэ і цяпер у вёсцы Морач Клецкага раёна.***

***У 1958 годзе я толькі што закончыў дзесяцігодку і адгукнуўся на заклік М. С. Хрушчова — застаўся працаваць у роднай вёсцы. Адразу ж быў запрошаны ў драмгурток і хор пры мясцовым клубе. Там і сустрэўся непасрэдна з песняй «А ў полі бяроза», якую запомніў на ўсё жыццё, бо выступаў разам з усімі харыстамі, выконваючы яе амаль на ўсіх аглядах і конкурсах, якія праходзілі ў Мінскай вобласці з 1958 па 1961 гг. (да майго паступлення ў Белдзяржуніверсітэт). Прашу апублікаваць тэкст песні і лічыць яе беларускай, народнай, а не толькі «песняй палескіх беларусаў».***

**Мікола АБАБУРКА,**
**прафесар Магілёўскага педінстытута імя А. Куляшова.**

Шчыра ўдзячны Мікалаю Васільевічу Абабурку за ліст, дасланы ў рэдакцыю, за крытычна-ўважлівае стаўленне да публікацый газеты, за ўдакладненні. Сапраўды, змешчаная ў газеце (№№39—40 за 10 лютага г. г.) песня «Во полі бэрэза» — палескі варыянт беларускай народнай песні. Песня — як дзіця: з цягам часу пакідае бацькоў, пачынае самастойнае жыццё. Яна, як і жывая асоба, заўсёды стасуецца з канкрэтнымі абставінамі.

Так і ў гісторыі песні «У полі бяроза». Узнікла яна хутчэй за ўсё ў XIX стагоддзі і, вядома, за час свайго існавання відазмянілася, зведала ўплыў кожнай мясціны, дзе яе выконвалі. На Міншчыне спяваюць пра імкненне моладзі да пары, пра вольнасць і рашучасць у выбары каханага. У палескім варыянце распавядаецца пра трываласць утворанага сямейнага саюза, пра любоў і згоду як аснову яго характва і радасці. Адрозніваюцца варыянты і напевам. Бытуе песня і на Украіне.

Аднак ва ўсіх варыянтах беражліва захоўваецца пачатак тэксту, у якім перадаецца спрадвечнае натуральнае жаданне быць у пары, з сумам адзначаецца адзінокае існаванне асобы. І наконт гэтага прыводзіцца трапнае параўнанне: чалавек без пары нагадвае адзінокае дрэва, якое на прыволлі выглядае вельмі маляўніча, але яму часцей за іншых даводзіцца быць безабаронным, больш вытрымліваць жыццёвых нягод.

Варыянт песні «У полі бяроза», які падаецца ў газеце, запісаны ў 1958 годзе В. Елатавым ад удзельнікаў калгаснага хору в. Морач Клецкага раёна. Апрацоўку зрабіў К. Паплаўскі. У такім выглядзе яна змешчана ў розных спеўніках, у тым ліку ў «Анталогіі беларускай народнай песні» (складальнік Г. Цітовіч), зборніку «Песні роднага краю». Але ў тэксце песні, што выконвае Марачанскі народны хор, паводле ўдакладненняў М. Абабуркі, маюцца адрозненні: зберагаецца дыялектнае вымаўленне («ні мінае», «ні мае», «ні чуе»; «горэ»), зроблены своеасаблівы акцэнт у першым радку, які даў назву песні («А ў полі бяроза»), па-іншаму трактуецца пачатак наладжвання сямейных сувязей (апошнія два слупкі):

*Да сьцяны гаворыць,*
*А сьцяна не чуе:*
*— Хто ж мяне разьдзене?*
*Хто ж мяне разбуе?*
*Румяныя губкі*
*Сто раз пацалуе?*

*Адазвалась Галя*
*Ў сенях, за дзьвярыма:*
*— Я ж цябе разьдзену,*
*Я ж цябе разбую,*
*Румяныя губкі*
*Сто раз пацалую.*

... Свет разнастайны ў формах выяўлення, але адзіны ў сутнасці і мэце развіцця — стварэнні прыгажосці. І песні — духоўна-матэрыяльныя часцінкі гэтай прыгажосці — прасвятляюць нас і яднаюць, у якіх бы варыянтах яны ні паўставалі.

**Міхась ШАВЫРКІН.**

### У ПОЛІ БЯРОЗА

**Беларуская народная песня**




*У полі бяроза*
*Кудрава стаяла.*
*Хто йдзе — не мінае,*
*Бярозу ламае.*
*Гора таму жыці,*
*Хто пары не мае.*

*Гора таму жыці,*
*Хто пары не мае.*
*Дадому прыходзіць —*
*Адзін спаць лягае,*
*Да сцяны вачыма,*
*Да хаты плячыма.*

*Да сцяны гаворыць,*
*А яна не чуе:*
*— Хто ж мяне прытуліць,*
*Вячэру згатуе,*
*Румяныя губкі*
*Хоць раз пацалуе?*

*Адазвалась Галя*
*Ў сенях за дзвярыма:*
*— Цябе прытулю я,*
*Вячэру згатую,*
*Румяныя губкі*
*Сто раз пацалую!*

Ад шчырага сэрца віншуем Алеся ДАВЫДАВА з днём нараджэння. Зычым яму здароўя, шчасця і плёну ў творчасці.

*Красоўскія (Наваполацк).*



# ЛАЎКА АЎТААМАТАРА

## Навошта бензіну... масла?

***Пры выкарыстанні прапануемай прылады значна палепшыцца работа рухавіка. Ён стане менш шумным, знікнуць стукі, паменшыцца кампрэсія. Справа ў тым, што трэба абсталяваць матацыкл сістэмай разрозненай змазкі.***

У бензін дабаўляецца не больш як 1/20 часткі масла, прапануемага да двухтактавых рухавікоў, але і яно прызначана для змазкі карбюратара, дросельнай засланкі іголкі і г.д.

Масла ж для змазкі рухавіка знаходзіцца ў асобным бачку, прычым яно злёгку разведзена бензінам.

З бачка масла падаецца па вінілавым шлангу да патрубка карбюратара (паміж карбюратарам і цыліндрам) і ўводзіцца ў яго з дапамогай невялікага штуцэра. Бачок абсталяваны дазіруючай іголкай, якой рэгулюецца расход масла. Яго павінна расходавацца прыблізна столькі ж (у разліку на адзінку аб'ёму паліва), колькі рэкамендуюць інструкцыі да двухтактавых рухавікоў.

Вымераўшы колькасць бензіну і масла, за некалькі паездак можна ўстанавіць аптымальны расход масла. Ёсць і іншыя прыметы аптымальных суадносінаў паліва і масла: у прыватнасці, дымнасць выхлапу павінна быць нармальнай для матацыкла гэтага класа.

Эфект ад прымянення такой змазкі немалы.

Так, масла (у выглядзе кроплі) трапляе непасрэдна ў картэр, дзе распырскваецца, змазваючы пры гэтым карэнныя падшыпнікі (а ў двухтактавых рухавіках яны заўсёды сухія!), крывашып, цыліндр, поршань і поршневы палец.

Лішкі масла часткова згараюць, а часткова трапляюць у выхлапны патрубак.

Нагару на поршні і галоўцы цыліндра не ўтвараецца, і, як вынік, у рухавіку не бывае дэтанацый.

Некаторых мотааматараў можа спужаць прымітыўнасць гэтага ўстройства паасобнай змазкі. Але яно самае простае і надзейнае. І не выпадкова.

Разрэджванне ва ўсмоктвальным патрубку рухавіка прапарцыянальна частаце кручэння каленчатага вала рухавіка, і, значыць, падсмоктванне масла ў патрубку таксама аўтаматычна будзе залежаць ад абаротаў — чым большая частата кручэння, тым больш будзе падавацца масла.







**Мал. 1.**

**Схема прылады паасобнай змазкі:**

*1 — упускны патрубак рухавіка; 2 — маслапрывод; 3 — дазіруючая прылада, 4 — маслабак.*

**Мал. 2.**

**Дазіруючая прылада:**

*1 — дазіруючая іголка; 2 — корпус прылады, 3 — маслабак; 4 — шайба; 5 — гайка; 6 — маслапрывод.*

## Як замацаваць ветравік

Выражце па чарцяжу ражок з ліставой сталі (лепей нержавеючай) таўшчынёй 1,2 міліметра. Загатоўку можна выкарыстоўваць як да правай, так і да левай фортmember — гэта залежыць ад таго, як вы яе сагняце. Пасля гібкі прасвідруйце дзве дзіркі для мацавання замка. Па гэтых дзірках зрабіце разьбовыя дзіркі ў самім замку. Пасля гэтага замацуйце ручку вінтамі.










Перад тым як замацаваць, падрэжце гумавае ўшчыльненне ветравіка. Каб прылада не выпадала, зафіксуйце яе вінтом М2,5, галоўка якога павінна ўвайсці ў адтуліну аправы шкла.

*1. Шруба М2,5х2 для мацавання.*

*2. Вось запора*

*3. Запор*

*4. Кнопка*

*5. Шруба М4х5*

## ПАРАДЫ БЫВАЛЫХ

**Перад заліўкай паліва ў бак пакладзіце ў лейку зверху на сеткавы фільтр слой тканіны (ад старой прасціны). І вы ўбачыце, колькі вады, бруду і г.д. будзе ёю затрымана. Прычым паліва будзе цячы лёгка. Па памеру часцінкі можна параўнаць з мукой ці цэментам. Увесь гэты бруд ідзе праз сеткавы фільтр у бензабак і далей у рухавік.**

**Зразумела, што ад гэтага ён вельмі пакутуе. Гэта аперацыя мае прамы сэнс для тых аўтамабіляў, якія не маюць штатнага фільтра тонкай ачысткі, але не пашкодзіць і тым, якія такі фільтр маюць.**

***

Каб не ржавела разьба на балтах ці гайках, якія знаходзяцца пад аўтамабілем, пакрыйце іх нітрафарбай тыпу НЦ-25. Нават праз некалькі гадоў разьбовыя злучэнні лёгка разабраць.

***

**Сітуацыя зусім звычайная: кола трапляе на лёд, уезджаны снег ці ў ямку з граззю, і машына стаіць — кола буксуе. Без дапамогі тут не абысціся.**

**Але ў такой сітуацыі ёсць выйсце. Аўтааматару трэба запасціся драцяным дыванком, які ёсць у гаспадарчых крамах. Паклаўшы пад буксуючае кола такі дыванок-рашотку, вы лёгка з'едзеце нават з зусім гладкага лёду. Сам жа гэты дыванок практычна не займае ў багажніку месца.**

***

Адшукаць пашкоджаную свечку запальвання на працуючым рухавіку можна з дапамогай алоўка. Для гэтага неабходна завастрыць яго з абодвух бакоў, а пасярэдзіне выняць кавалачак графіту даўжынёй 3 мм. Адным канцом алоўка дакранаюцца да масы, другім — да электрода свечкі. Пры непашкоджанай свечцы праз паветраны прамежак алоўка будзе праскокваць іскра.

***

**Падабраць фарбу пры рамонце кузава цяжка: пасля засыхання яна мяняе колер. Склаўшы фарбу патрэбнага колеру, трэба нанесці яе на празрыстае шкло.**

**На неафарбаванай паверхні шкла вы ўбачыце колер, які будзе, калі фарба засохне.**

### Зігзаг на дарозе

Рулявое кіраванне служыць для павароту направа, налева і ў іншыя бакі.

*З лекцыі інструктара ДАІ.*

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 28 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял. **9.10** «Жостаўскі роспіс». Кінанарыс. **9.20** «Літарынка». **10.05** «Дзюймовачка». Тэлеспектакль. **11.15** «Госця з будучыні». Маст. фільм. 4-я серыя. **12.20** Чацвёртае вымярэнне. **15.00** Навіны. **15.15** «Будзь маім сланом». Мультфільм. **15.30** Студыя «Акно». «Класіка двароў». **15.50** «Вяскоўцы». **16.20** Правінцыя. Самадзейны разьбяр М.Зэйдэль (Навагрудскі раён). **16.30** Урокі Наталлі Наважылавай. **17.00** Арсенал. Праграма для вайскоўцаў. **17.30** Крэда. **17.50** Музычны антракт. **18.00** «Яшчэ не вечар...» **18.10** «Карнавал у Венецыі». Дак. фільм. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял. **20.05** «Кантрасты». Прававая праграма. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** «Інспектар крымінальнай паліцыі». Маст. фільм. 2-я серыя. **23.45** Футбол. Зборная Славакіі — зборная Беларусі. Пасляслоўе да матча. **0.05** Навіны. **0.20** «Крок». Праграма для моладзі.

### ГРТ

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.40** Навіны. **8.15** «Сакрэт трапіканкі». **9.10** Тэма. **9.50** Клуб падарожнікаў. **10.35** Смак. **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам міру». **11.40** «Месца сустрэчы змяніць нельга». 2-я серыя. **12.55** «Корцік». 3-я серыя. Заключная. **15.35** «Элен і хлопцы». **16.00** Рок-урок. **16.30** Сем дзён спорту. **17.20** «Сакрэт трапіканкі». **18.10** Гадзіна пік. **18.35** Лато «Мільён». **19.00** Адзін на адзін. Вядучы А.Любімаў. **19.45** «Спакойнай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.30** Аперацыя. **20.45** Праграма перадач. **20.50** Сімона Сіньёра ў фільме Луіса Бунюэля «Смерць у гэтым садзе». **22.50** «Агляд» Івана Дзямідава. **23.40** «Месца сустрэчы змяніць нельга». 2-я серыя.

### Канал «Расія»

**9.05** «Санта-Барбара». **10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі. **10.20** Міліцэйская хроніка. **10.30** Музычны экспромт. **10.45** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял. **11.15** Рэпартажы з месцаў. **15.05** Свята кожны дзень. **15.15** Там-там навіны. **15.30** Кенгуру. **16.20** Новая лінія. **16.50** Танц-экспрэс. **17.05** Залатая візітка. **17.20** Лідэр-прагноз. **17.50** Кліп-антракт. Шандор. **17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны». **19.25** Падрабязнасці. **19.35** «Санта-Барбара». **20.30** «Гарадок». Забаўляльная праграма. **21.05** Момант ісціны. На пытанні А.Караўлава адказвае І.Кабзон. **22.30** Рака часу. **22.35** Аўтаімгненне. **22.40** Экран крымінальных паведамленняў. **22.50** Плошча мастацтваў. Спявае А.Абразцова. **23.35** Прыватная калекцыя.

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ. **12.10** «Першае каханне». Серыял. **13.10** Хуткая дапамога. **13.40** Парады садаводам. **13.50, 15.55, 23.05** Музычны момант. **14.10** Тэлешансон. **14.35** Мультфільм. **14.15** «Еўрапейскі тэлесаюз» прадстаўляе. «Пасол Папы і Марыбо». **15.15** Стыль жыцця. **15.40** «Нямецкая хваля». **16.00** Еўрапейскі калейдаскоп. **16.30** Раўняецца каханне... **17.00** Па ўсёй Расіі. **17.10** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія. **18.10** Вялікі фестываль. **18.50** Спартыўныя навіны. **18.55** «Першае каханне». Серыял. **19.50** Тэлеслужба бяспекі. **20.00** Шведскі Пецярбург. **20.35** Мультфільм для дарослых. **20.55** «Залаты Цялец». Забаўляльная праграма. **22.00** Спорт, спорт... **22.15** Старое танга. **22.35** Асабістая справа. **23.10** «Ключ пад цыноўкай». Інсцэніроўка апавядання французскага пісьменніка Марселя Эме.

### «Расійскія універсітэты»

**7.30** Ладу вашаму дому. **7.40, 10.30, 13.30, 16.45** СІВ. Навіны. **7.50** Нямецкая мова для дзяцей. **8.10** Погляд з аркестра. Дырыжор Павел Коган. **8.55** Медыцынскія навіны Расіі. **9.00** Ноу-хау: інфармацыя, людзі, ідэі. **9.30** Падарожжа ў краіну іспанскай мовы. 1-ы і 2-і гады навучання. **10.35** АРЫОС. **11.30** У рабочы апоўдзень. **12.30** Гадзіна «Рэаліста». **13.35** Крыніцы. **14.05** «Туфлі з залатымі спражкамі». Маст. фільм. 1-я серыя. **15.10** Старая, старая кніга. **15.25** «Спяваю для Вас...» Н.Гулькіна, Г.Ліпіна. **15.35** Сярэдняя школа сёння. **16.05** Ілюзіі і гукі. «Нямое кіно — жывая музыка».

### НТБ

**17.00** «Цудоўныя гады». 109-я серыя (ЗША). **17.30** Паўгадзіны пра тэніс. **18.00, 21.00, 23.00** «Сёння». **18.35** Герой дня. **19.00** Прэмія «Оскар». Вудзі Ален і Дайан Кітон у фільме «Эні хол» (ЗША). **20.35** «Як казакі на вяселлі гулялі». Мультфільм. **21.35** Гадзіна серыяла. «Слова». 4-я серыя, заключная (ЗША). **22.30** Часінка. **23.20** Кіно не для ўсіх. Аляксей Пятрэнка, Пётр Вельямінаў і Яўген Сцяблоў у фільме «Налёць».

## ЦІКАВА...

## Прынц Чарльз размаўляе з раслінамі

### ЧАМУ ІМ ГЭТА ПАДАБАЕЦЦА?

**Прынц Чарльз неяк прызнаўся, што любіць размаўляць з раслінамі, і нават намякнуў, што гэта ідзе ім на карысць. Але, як аказалася, раслінам ідуць на карысць размовы не толькі з асобамі каралеўскай крыві, але і з самымі звычайнымі людзьмі, і не толькі размовы.**

Даследаванне, якое нядаўна завяршылася ў Вялікабрытаніі, пераканаўча паказала, што прынцу Уэльскаму не трэба было абмяжоўвацца размовамі з раслінамі, а спяваць ім песні, лёгка ўстрэсваць і нават пагладжваць іх лісце. І тады расліны (размова ідзе аб пакаёвых) будуць цудоўна сябе адчуваць і радавацца жыццю. Мала таго, некаторыя з іх упадаюць ў эйфарыю, як гэта ні дзіўна, наогул адчуваюць аргазм.

Раслінам патрэбны вуглякіслы газ для харчавання, а ў навакольным паветры яго ўсяго толькі 300 частак на мільён. Калі ж дыхаць на расліны, а менавіта гэта адбываецца пры размове з імі, то яны атрымаюць у 170 разоў больш вугляроду.

Вучоныя канстатуюць факты, якія паказваюць, верце ці не верце, што расліны любяць музыку. На так званы чысты, або хаатычны, шум, накшталт шуму вулічнага руху, яны наогул не рэагуюць. Расліны любяць толькі пэўныя гукавыя частоты.

У лабараторыі універсітэта горада Таронта ўстанавілі, напрыклад, што расліны пачынаюць асабліва добра расці, праслухаўшы сольныя спевы і пры гэтым жаночага голасу. А агуркі аддаюць перавагу гукам флейты.

Тыя ж даследаванні паказваюць, што калі расліны страсануць, то іх чаранкі становяцца карацейшымі і мацнейшымі а лісце — гусцейшым і зелянейшым. Але тут трэба захоўваць разумную асцярожнасць, інакш можна траўміраваць расліны, тады яны ўвогуле перастануць расці і засохнуць.

Пагладжванне ж рэкамендуецца ў якасці дапаўнення да ўсіх пералічаных метадаў. Па-першае, гэта пазбаўляе лісце ад тлі. Чаму — ніхто не ведае. А па-другое і па-трэцяе, вылечвае расліны ад бактэрыяльнай інфекцыі і дапамагае пазбавіцца ад стрэсу, які, як аказваецца, з'яўляецца прэрагатывай зусім не толькі людзей.

Расліны дапамагаюць людзям расслабіцца, зніжаюць крывяны ціск, змяншаюць лішнюю актыўнасць мозгу і наогул супакойваюць. Яны дзейнічаюць накшталт прыроднага пыласоса, паглынаюць газы, якія выдзяляюцца пры прыгатаванні ежы, з дываноў і да т. п. Расліны добра ліквідуюць непрыемныя пахі і паглынаюць шум.

Дарэчы, спяваць песні кветкам — гэта зусім не лішняе. Яны заслугоўваюць і песень, і музыкі, і пагладжвання.

**Эфір-дайджэст.**



**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113.326 Індэкс 63850.
Зак. № 1549.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12